Палітычны і грамадскі імідж бацькі і ўваходжанне праз шлюбы нашчадкаў Антонія Пшаздзецкага ў багацейшыя магнацкія роды краіны (Радзівілы, Храптовічы, Тызенгаўзы) забяспечылі спрыяльныя ўмовы для рэалізацыі задумы Антонія Тадэвуша. Абапіраючыся на падтрымку ўплывовых родзічаў і ўдалую стаўку на здольнасці і магчымасці працуючага на патрэбы ўсёй сям'і, якая разраслася (палацы — Радзівілаў у Нясвіжы; Храптовіча ў Шчорсах; асобныя архітэктурныя аб'екты ў Паставах Тызенгаўзаў), італьянскага дойліда Карла Спампані, Міхал і Дамінік Пшаздзецкія пабудавалі ў Заслаўі ўнікальны архітэктурна-гаспадарчы ансамбль, што ўвабраў у сваю канцэпцыю рысы дасягненняў еўрапейскай цывілізацыі таго часу.

*В) Стратэгія ўзвядзення палаца.*

Пры ўзвядзенні палацавага комплексу адна са складаных і найважнейшых задач — вызначэнне месца для будаўніцтва. Заслаўе ў адносінах планіровачнага развіцця на працягу вялікай гісторыі горада фарміравалася паводле веернага прынцыпу — амаль кожны гістарычны адрэзак знаходзіў сабе матэрыяльнае ўвасабленне ва ўласным сегменце агульнай тэрыторыі.

Будаўнікі кажуць, што заўжды выгодней ствараць новае, чымсьці перабудоўваць старое. Мабыць, так вырашылі і Пшаздзецкія, абапіраючыся на рэкамендацыі дойліда Спампані і адмовіўшыся аднаўляць на старым гарадзішчы разбураны шведамі палац Сапегаў. Пачалі ўзводзіць новы комплекс, і ў баку ад асноўнай часткі гарадской тэрыторыі, што адпавядала існуючай на той час тэндэнцыі ў архітэктурнай практыцы позняга барока: «Палацы і сядзібы трэцяй чвэрці XVIII ст. яшчэ не былі арганізуючымі цэнтрамі гарадскога асяродку. Яны былі як бы «ансамблямі ў сабе», і адсюль іх горадафарміруючая роля зводзілася да мінімуму» (1 — 17). З другога боку, яны з'яўляліся адміністрацыйна-гаспадарчымі цэнтрамі значных па маштабу землеўладанняў, у выпадку Пшаздзецкіх — ёмістай тэрыторыі Заслаўскага графства.

Традыцыйным для будаўнічай практыкі таго часу было і выкарыстанне пад'язной дарогі (зараз вуліца Савецкая) да палаца Пшаздзецкіх як яднаючай кампазіцыйнай восі паміж палацавым ансамблем і агульнай тэрыторыяй Заслаўя (1 — 18,19), што перарастала ў горадзе ў дамінуючую паводле агульнай арганізацыі планіровачнай прасторы вуліцу Ракаўскую. Размяшчэнне палаца ў завершы вуліцы, якая дамінуе ў гарадской прасторы як арганізуючая яе вось, узмацняла значэнне ансамбля ў гарадскім асяродку (2 — 264 — 265).

*Г) Храм — найпершы аб'ект пры будаўніцтве магнацкай рэзідэнцыі.*

Неад'емнай часткай буйной магнацкай рэзідэнцыі традыцыйна з'яўлялася культавая забудова з уладкаваннем у ёй родавых пахавальных скляпенняў. На Беларусі найпершым узорам можна прывесці пахаванні Радзівілаў у скляпеннях езуіцкага касцёла Божага Цела ў Нясвіжы. Не менш славутыя родавыя пахаванні Сапегаў. У Заслаўі аналагічная ўсыпальніца мела месца ў былым кальвінісцкім зборы (цяпер Спаса-Праабражэнская царква), дзе на пачатку рэстаўрацыйных работ у 70-х

гадах XX ст. гісторыкам У. Гілепам былі выяўлены засыпаныя глебай рэшткі пахаванняў, верагодней за ўсё, Глябовічаў і Сапегаў. Пшаздзецкім пры стварэнні новай рэзідэнцыі і будаўніцтве новага храма належала паклапаціцца і пра родавы пахавальны склеп. І гэту задачу абазначыў для сябе і справіўся з ёю Антоній Тадэвуш Пшаздзецкі.

Аналіз мастацкіх асаблівасцяў і даследаванне гісторыі заслаўскага касцёла, узведзенага Антоніем Тадэвушам Пшаздзецкім у імя Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Заслаўі, не ўваходзіць у кола праблем гэтага артыкула, бо касцёл быў узведзены да пачатку будаўніцтва палацавага комплексу Пшаздзецкіх і мае даволі самастойны гісторыка-культурны кантэкст ўзвядзення. Тым не менш паміж гэтымі з'явамі існуюць магутныя канцэптуальна-ідэалагічныя повязі, з якіх тут найболей актуальнае значэнне гэтага храма як сакральнай і культуралагічнай з'явы ў гісторыі горада мы не можам абмінуць дзве сур'ёзныя недакладнасці, уведзеныя апошнім часам у навуковы зварот.

Так, у кнізе «Памяць. Заслаўе» у артыкуле «Заслаўскі парафіяльны касцёл» У.М. Дзянісава знаходзім наступную інфармацыю: «У 1774 г. новы ўладальнік Заслаўя віленскі падканцлер Вялікага княства Літоўскага Антоній Пшаздзецкі, які набыў Заслаўе ад Сапегаў, пачаў будаваць новую мураваную святыню» (3 – 86). На самой справе гэты тэкст пазбаўлены ўсялякай логікі, таму што Антоній Тадэвуш Пшаздзецкі памёр у 1772 годзе, а значыць, у 1774 годзе фізічна не мог распачынаць будоўляў. Па-другое, тэстамент Антонія сведчыць аб тым, што ў перыяд яго складання (да 1772 года) касцёл ужо быў узведзены, і незавершанымі заставаліся інтэр'ерныя працы, якія было даручана давесці, адпаведна тэстаменту, сынам Пшаздзецкага – Міхалу і Дамініку, на што былі выдаткаваныя адпаведныя сродкі. У гэтым жа тэстаменце Антоній Тадэвуш Пшаздзецкі выказаў пажаданне быць пахаваным у пабудаваным ім заслаўскім касцёле, але з прычыны яго заўчаснай смерці ў Варшаве ў сталіцы ён і быў пахаваны, а запаветная мара магната не была здзейсненая.

Другая недакладнасць датычыць вызначэння імені дойліда, які будаваў храм.

У змястоўным і актуальным артыкуле А.М. Кулагіна «Элітная архітэктура Беларусі ў агульнаеўрапейскім кантэксце» напісана: «Эфектнае і пластычнае барока ілюструе касцёл Марыі ў Заслаўі, пабудаваны ў 1774 – 1780 гг. па складзеным яшчэ ў 1765 г. праекце італьянскага дойліда Паўла Антоні Фантаны» (4 – 108,109). З першага погляду інфармацыя выглядае пераканаўчай. Тым болей, што яна падмацаваная праўдзівай звесткай аб тым, што завяршаў будаўніцтва Карла Спампані. Больш-менш пераканаўчай выглядае і дата ўзвядзення касцёла, хаця яна і патрабуе ўдакладнення (што ўжо зроблена намі раней адносна публікацыі Дзянісава): касцёл узведзены да 1772 года. Дата стварэння праекта касцёла таксама можа быць прынятая на павер, бо гістарычная фактагогія спрыяе гэтаму – у 1760 годзе былі завершаны фінансавыя аперацыі па набыццю Заслаўя Антоніем Тадэвушам Пшаздзецкім, і ён ўжо з поўным мараль-

ным правам мог прыступіць да пачаткаў будаўніцтва на тэрыторыі новых уладанняў. І натуральным выглядае, што аб'ектам найбольшай і першачарговай увагі ў гэтым будаўніцтве для выхаванага як добрага каталіка Антонія Тадэвуша павінен быў стаць касцёл — як сакральны цэнтр духоўных прыярытэтаў новага ўладара Заслаўскага графства. Звестка Кулагіна аб тым, што паміж стварэннем праекта і будаўніцтвам касцёла мела месца значная дыстанцыя ў часе, таксама лёгка тлумачыцца: страціўшы на набыццё графства вялікія сродкі — 610 916 злотых, сям'я Пшаздзецкіх павінна была мець нейкі час на папаўненне ўласнага бюджэту.

І ўсё ж, аналізуючы тэкст у азначаным артыкуле А.М. Кулагіна, мы маем поўнае права падвергнуць яго сумненню, з аднаго боку таму, што, уводзячы ўпершыню ў беларускі навуковы кантэкст інфармацыю аб будаўніцтве заслаўскага касцёла Паўлам Антоніем Фантанай, аўтар не прыводзіць спасылак на крыніцы. З другога боку неабходна ўлічваць, што другое Заслаўе існавала на Валыні, і якраз яно з'яўлялася родавым гняздом магнатаў Сангушкаў. Інфармацыю аб гэтым мы сустрэлі пад час працы ў архівах Кракаўскага ўніверсітэта: з генеральнага візіту заслаўскага касцёла Св. Юзафа — «любімца Святой Дзевы Марыі, у Заслаўі — паятовым горадзе Валынскай губерні» (5) стала вядома, што ўзведзены ён быў у маёнтку Анеліі Сангушкавай і фундаваны князем Паўлам Каралем Любартавічам Сангушкам, маршалкам ВКЛ, у 1750 годзе.

Да Заслаўя пад Мінскам як да маёмаснай тэрыторыі Сангушкі ніколі не мелі прамых дачыненняў, хаця сярод шматлікіх іх уладанняў былі маёнткі на Валожыншчыне і ў ваколіцах Мінска, а адну з буйных рэзідэнцый яны мелі ў Смалянах (Аршанскі раён), дзе трывала працаваў узяты для выканання сямейных архітэктурных патрэбаў дойлід з Італіі Павел Антоні Фантана.

Патэнцыяльна Фантана мог мець дачыненне да праектавання і будаўніцтва касцёла ў імя Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі, бо па тых часах праца славутага дойліда паралельна на некалькіх архітэктурных аб'ектах была з'явай распаўсюджанай, ды і ў Антонія Тадэвуша Пшаздзецкага як дзяржаўніка маглі быць даверыцельныя як службовыя, так і асабістыя адносіны з маршалкам ВКЛ Паўлам Каралем Любартавічам Сангушкам, што магло спрыяць карыстанню абодвух паслугамі аднаго дойліда. Выклікае цікавасць працуючая на гэту гіпотезу ўскосная повязь у назвах касцёлаў у Заслаўі на Валыні і ў Заслаўі пад Мінскам: першы названы ў гонар Святога Юзафа, у зямны час — мужа Марыі, другі — у гонар самой Дзевы Марыі. Да таго ж апісанне касцёла на Валыні паводле яго генеральнага візіту ад 7 кастрычніка 1819 (5) выклікае прамыя асацыяцыі з відарысам касцёла, фундаванага ў нашым Заслаўі Антоніем Тадэвушам Пшаздзецкім. Тым не менш усё гэта толькі здагадкі, развагі і гіпотэзы, а рэаліі такія, што канкрэтнай факталогіі аб праектаванні і будаўніцтве заслаўскага касцёла ў імя Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі пакуль не выяўлена.

Вяртаючыся да тэмы самакаштоўнасці збудаванага Пшаздзецкімі касцёла ў Заслаўі як сакральнага цэнтра буйнога графства ўвогуле,

і палацавага ансамбля — у прыватнасці, заўважым, што, нягледзячы на некаторую аддегласць храма ад палаца тэрытарыяльна, ён меў цесную і неад'емную повязь з рытмамі, характарамі, менталітэтам і духоўнасцю ў жыцці ўладароў Заслаўя доўгі перыяд, і асабліва — пры валоданні Заслаўскім графствам Пшаздзецкімі. Каб асэнсаваць гэта, трэба звярнуць увагу на адметнасць палацавай культуры на тэрыторыях Вялікага княства Літоўскага ўвогуле, якую цяжка ўявіць без «пышна інсцэніраваных багаслужэнняў» (4 — 114) як акцэнтнай часткі барочнага ладу жыцця эліты той эпохі. Не быў выключэннем і заслаўскі касцёл, у якім у дні ўрачыстасцяў і святаў моцам радашковіцкай і заслаўскай капэл у 1776 — 1784 гадах спяваліся оды, паэмы, панегірыкі і дыфірамбы магнатам. (6)

З архітэктурнага пункту гледжання, як гэта і было распаўсюджана па тым часе, касцёл у Заслаўі акрамя культавага прызначэння, выконваў функцыю прамежкавай дамінанты паміж палацам Пшаздзецкіх і старажытнай часткай Заслаўя. (1 — 19).

*Д) Антоній Тадэвуш Пшаздзецкі тыпам сваім, характарам, усёй сваёй натурай належаў часу, калі краіна была падзелена на незалежныя ад цэнтральнай улады вотчыны, у межах якіх палац або сядзіба з'яўляліся адміністрацыйна-гаспадарчымі цэнтрамі вотчыны багатага шляхціца.*

У межах гэтых тэрыторый праводзілася ўласная знешняя і ўнутраная палітыка, і ў эканоміцы ўсёй краіны панавала буйное прыватна-уласніцкае землеўладанне. Лёс Пшаздзецкага, яго жыццёвая і грамадзянская пазіцыя, яго маёмасныя справы факусіравалі ў сабе галоўныя веянні эпохі і сітуацыю, якая склалася гістарычна: з аднаго боку гэты чалавек быў патрыётам сваёй краіны — дзейсным і ўплывовым дзяржаўнікам, які меў непасрэдныя дачыненні да вырашэння праблем на магістральных пуцявінах лёсу краіны, а таксама да вырашэння прыватных маёмасных спраў як радавых грамадзян Вялікага княства Літоўскага, так і такіх знакаміых, уплывовых і багатых як Радзівілы ды Сапегі. З другога боку гэта быў шляхціц, першы з Пшаздзецкіх, што на працягу свайго жыцця і дзяржаўнай дзейнасці стаў на шлях трывалага становішча як у самых высокіх дзяржаўных адміністрацыйных структурах, так і ў асяродку пачэснай магнатэрыі.

Вынікам уласных дасягненняў Антоній Тадэвуш бачыў неабходнасць іх замацавання праз набыццё Заслаўскага графства, узвядзенне ў яго адміністрацыйным цэнтры — Заслаўі — вялікага і велічнага палаца, як гэта было прынята і вельмі распаўсюджана ў сярэдзіне XVIII стагоддзя па ўсёй краіне. Бо гэта была эпоха барока, якая славілася пыхай і неапраўданай раскошай, шляхціцы спаборнічалі паміж сабой багаццем і знешнім эфектам.

*Е) Калі сынам Пшаздзецкага давялося ўзяцца за здзяйсненне галоўнай бацькавай мары — узвядзенне палаца, сітуацыя ў краіне істотна змянілася.* У адрозненне ад перыяда, калі тэрыторыі ВКЛ, у тым ліку і атачэнне Мінска, у якое ўваходзіла Заслаўе, было адным з цэнтральных у кірунку разгортвання грамадска-палітычных дзеянняў Рэчы Паспалітай

паміж усходам і захадам як ў палітыцы, так і ў эканоміцы, у апошняй чвэрці XVIII стагоддзя гэтыя мясціны сталіся глухой правінцыяй на абсягах Расійскай імперыі. Гэта істотна адбілася на маштабах мясцовага будаўніцтва. Нават буйныя магнаты ўзводзілі палацы, а яшчэ часцей — сядзібы болей камернага характару, пераважна аднапавярховыя. А калі ў будынку і быў другі паверх, найчасцей ён будаваўся з дрэва і насіў мансардны характар. Тым не менш паводле апісання палаца ў інвентары Прушынскіх ад 27 кастрычніка 1867 года, а таксама малюнка панарамы Заслаўя Леона Баратынскага ад 22 лютага 1859 года, на якім прасочваюцца выявы палаца, карты Заслаўя 1812 г. і розных іншых дадатковых матэрыялаў і ўзгадак, робім кампетэнтную выснову: палац магнатаў Пшаздзецкіх у Заслаўі ў 80-х гадах XVIII стагоддзя быў узведзены каменным і двухпавярховым, складанай канфігурацыі ў плане, маштабным і велічным. Паўстае пытанне: чым было прадыктавана адступленне ад патрабаванняў часу?

У якасці гіпотэзы можна меркаваць, што праект палаца выкананы задоўга да будаўніцтва, адначасна з праектаваннем і ўзвядзеннем заслаўскага касцёла ў імя Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі і ў адпаведнасці з архітэктурнымі тэндэнцыямі той эпохі. І тут прыдалося б меркаванне А.М. Кулагіна, што праект палаца, як і праект заслаўскага касцёла, быў выкананы італьянскім дойлідам П.А. Фантана, а Карла Спампані ўсяго толькі здзяйсняў гэта будаўніцтва (4—11,13). Тым болей, што ў захаваных дакументах аб найме Спампані Пшаздзецкімі няма ніякай гаворкі аб выкананні праектных работ, і размова ідзе выключна аб працэсах будаўніцтва. Такі кантэкст дае падставы для разумення, чаму ўзведзены палац сваёй маштабнасцю і веліччу не зусім адпавядае архітэктурным тэндэнцыям у краіне ў 80-х гадах XVIII стагоддзя.

Але аб'ектыўны аналіз і адсутнасць пацвярджаючых гіпотэзу канкрэтных дакументальных крыніц вымушаюць нас заставацца пры папярэдняй, больш пераканаўчай на гэты момант выснове — палац у Заслаўі і праектаваў, і ўзводзіў Карла Спампані. Акрамя існуючых дакументаў, што паўнавартасна пераконваюць у прамым удзеле дойліда ў кіраўніцтве і непасрэдных працах па будаўніцтву палаца, існуе шэраг ускосных фактараў, што даюць прадпасылкі сцвярджаць аўтарства Спампані і ў дачыненні да праекта Заслаўскага палаца. У першую чаргу гэта аналіз стылістычных асаблівасцей, густаў і пераваг дойліда пры праектаванні іншых аб'ектаў і палацавых комплексаў.

У цэлым палацавы комплекс магнатаў Пшаздзецкіх у Заслаўі мае шмат агульных рысаў з касмапалітычнай па сутнасці агульнаеўрапейскай архітэктурнай традыцыяй, што панавала і ў Рэчы Паспалітай у XVIII стагоддзі і была арыентаваная на сфармаваны яшчэ да канца XVII стагоддзя ў Францыі ідэал барочнай арыстакратычна-палацавай рэзідэнцыі тыпу «entre cour et jardin» («паміж дваром і паркам»), распаўсюджанага буйнейшым французскім архітэктарам Ш. Бландэлем. На тыя часы засваенне літоўска-беларускай магнатэрыяй культуры Захаду было неад'емнай умовай прыналежнасці да эліты грамадства (4—110).

Формы французскай рэпрэзентатыўнай палацавай архітэктуры будаўнікі на тэрыторыях ВКЛ успрынялі ўзбагачонымі Германіяй у духу квітнеючага саксонскага барока (2, ст. 460—461). Для Карла Спампані, акрамя названых узораў, існаваў асабісты чыннік — віленскі класіцызм: дойлід з'явіўся на тэрыторыях Вялікага княства Літоўскага без якога-небудзь удзелу ў яго кар'еры караля Станіслава Аўгуста, таму яго творчы шлях адносна варшаўскіх архітэктурных прыярытэтаў меў у пэўнай ступені адасобленае развіццё (8, ст. 69—70). Мабыць, гэта адна з прычын таго, што дойлід лёгка ўспрымаў найноўшыя тэндэнцыі, засвоеныя на Віленшчыне, і побач з Л. Гуцэвічам вызначаны адным з першых прадстаўнікоў накірунку класіцызму ў палацавым дойлідстве на абшарах Вялікага княства Літоўскага (1, ст. 63). У выніку адно з архітэктурных тварэнняў Спампані на Міншчыне — палацавы комплекс у Заслаўі — паводле стылістыкі форм займае прамежкавае месца паміж традыцыямі барока і архітэктурай класіцызму. Да прыкладу, паводле барока курданер тут яшчэ мае П-падобную форму, але ў адпаведнасці з архітэктурнымі асаблівасцямі класіцызму бакавыя флігелі Заслаўскага палаца — гэта ўжо не прыстасаваныя да галоўнага корпусу дадатковыя аб'ёмы, а раўнацэнныя франтальнай частцы палаца, адначасна ўзведзеныя і аб'яднаныя з ёй візуальнай канцэпцыяй часткі будынку (глядзі план палаца і эксплікацыю да яго паводле карты Заслаўя 1812 года).

Да сённяшняга дня захаваўся фрагмент палаца (зараз — з боку чыгуначнага вакзала), у якім порцік выкарыстоўваўся як балкон, што адпавядае тэндэнцыям барока, згодна з якімі, гэты элемент трактаваўся дэкаратыўнай аздобай будынка (1, ст. 32).

Аналагічны бакавы «порцікавы» балкон прачытваецца ў рэштках экстэр'ернай архітэктуры былога Эрмітажа (аб гэтым будынку будзеісці асобная гаворка) палаца Пшаздзецкіх (глядзі фотаздымак № 1) — цяпер будынак заслаўскага Дома дзіцячай творчасці. Захаваныя па сённяшні дзень дзверы на гэты балкон сваёй формай і наяўнасцю ў двух асобніках падштурхоўваюць да думкі аб тым, што дах будынка ад пачатку меў не такі, як зараз, а іншы — мансардны характар, што зусім адпавядае барока і агульнаму стылю дахавых завяршэнняў галоўных будынкаў Заслаўскага палацавага комплексу, апроч флігеляў для прыслугі і гаспадарчых будынкаў, архітэктура якіх насіла лаканічны, рацыянальны характар. Франтон паводле балконнага порціка, відавочна, меў гнуткую па бакавой кромцы — барочную канфігурацыю, аналагічную той, што мела месца і паводле вышэй узгаданага намі порціка будынка, што знаходзіцца зараз ля чыгуначнага вакзала. Гэтую форму мы яшчэ мелі магчымасць назіраць з дзясятак год таму, чакаючы на пероне вакзала электрычкі на Мінск (у перыяд да пераходу фрагмента будынка былога палаца з дзяржаўнай уласнасці ў прыватнае карыстанне, з суправаджэннем адпаведным рамонтам, пасля якога з вяршыні франтона зніклі вылепленыя аб'ёмна лічбы даты ўзвядзення будынка і хвалістыя формы бакавых контураў франтона).

Абагульняючы назіранні: бакавыя франтоны парадных будынкаў Заслаўскага палаца аздабляліся барочным завяршэннем, а франтоны над галоўнымі ўваходамі (паводле малюнка Заслаўя Леона Баратынскага) — характэрнымі для праектаў Карла Спампані класіцыстычнымі порцікамі на чатырох калонах, і іншае, — можна гаварыць аб пэўных асаблівасцях стылю (прыёмах), ужытых дойлідам у заслаўскім праекце як кампрамісны ход на шляху ўвядзення ўзораў класіцызму ў той час, калі ў прэзентацыйным дойлідстве краіны панавала барока.

У адпаведнасці з канонамі класіцызму палац у Заслаўі ў планіровачным рашэнні ўсяго палацавага комплексу з'яўляўся цэнтрам кампазіцыі: з правага боку ад яго размясцілася пляцоўка парка, з левага — вадзяныя запруды, якія ўвайшлі і ландшафтнай прасторай, і гаспадарчым патэнцыялам у дакладна вывераную структуру ансамбля. Восевая дарога, што кіравалася ўздоўж фасада палацавага ансамбля, служыла як бы воссю сіметрыі, па другі бок якой адносна палаца, прыблізна ў такім жа тэрытарыяльным аб'ёме, як палац з паркамі і запрудамі, размяшчаўся добра зладжаны і даволі значны па маштабу гаспадарчы комплекс (глядзі план паводле карты 1812 года і эксплікацыю да яго).

Адносна асаблівасцей кожнага з буйных блокаў палацавага ансамбля (паркі, гаспадарчы сектар, вадаёмы, палац) прынцыпам класічнай планіроўкі паводле дакладнай сітуацыі былі прыналежны толькі сам палац з яго непасрэдным атачэннем і прымыкаючая да яго па правым фланзе прасторная тэрыторыя верхняга парку, цэнтрам якой, выразна падкрэсленым кветачна-клумбавай арганізацыяй, аказаўся будынак Эрмітажа (цяпер — Дом дзіцячай творчасці). Ніжні парк, вадаёмы і гаспадарчыя тэрыторыі сваімі абрысамі нагадвалі натуральныя прыродныя асяродкі. Гэтыя адметнасці арганізацыі структуры Заслаўскага палацавага комплексу адпавядалі тэндэнцыям архітэктуры гэтага рэгіёна ў 80-я гады XVIII стагоддзя (1 — 75).

*Ж) Асобнай гаворкі і аналізу заслугоўвае будынак заслаўскага Эрмітажа.*

У памяці кожнага з нас слова «Эрмітаж» асацыіруецца з расійскім музеем. Адразу паўстае ўяўленне аб нечым значных памераў, манументальным па форме, звышкаштоўным сваім начыннем. На самай справе на тэрыторыі Польшчы, Вялікага княства Літоўскага і Расіі ў XVIII стагоддзі гэта паняцце і з'ява патрапілі з Францыі паводле ўзорнага будынку, створанага пры двары Людовіка XIV, — невялікага палаца ў парку Марлі для караля, што шукаў месца для супакою, якога не мог мець у Версалі. А па вялікім рахунку гэта традыцыя бярэ пачатак ад Іспанскага двара, дзе Эрмітажу (у перакладзе гэта слова азначае — дом самотніка) у больш сціплым і камерным увасабленні надавалася сакральнае значэнне.

З «лёгкай рукі» дойлідаў Людовіка XIV эрмітажы трывала ўвайшлі ў культуру палацавых комплексаў усёй Еўропы. (9 — 49).

На тэрыторыях Вялікага княства Літоўскага адзін з першых эрмітажаў быў узведзены ў Альбе — летняй рэзідэнцыі магнатаў Радзівілаў на паўночнай ускраіне Нясвіжа (10 — 106). Стварэнне радзівілаўскага

Эрмітажа атаясамліваецца з імем Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі: прынята лічыць, што пры ім былі ўзведзены Эрэметорый (Эрмітаж) і драўляны палац. Будынак Эрмітажа знаходзіўся на мяжы або за мяжой «сада агароджанага» — там, дзе сад межаваў з натуральнай лясістай мясцовасцю. (11—91). Гэткае яго размяшчэнне нагадвае размяшчэнне заслаўскага Эрмітажа — на лініі мяжы рэгулярнай часткі паркавай сістэмы і яе ландшафтнага, набліжанага па структуры да натуральнай прыроды сегмента.

Будаўніцтва Альбы перажыло чатыры этапы. Трэці з іх, што звязаны з імёнамі дойлідаў Л. Лутніцкага і будаўніка палаца Карла Спампані, вызначаны як перыяд найвышэйшага росквіту і вядомасці Альбы. У гэты час быў сфарміраваны вялікі паркавы ансамбль, у якім адначасна з двухпавярховым каменным палацам на месцы старога драўлянага пабудавалі каменны будынак Эрмітажа (11—92).

Праца па ўзвядзенню Альбы і будынка Эрмітажа ў гэтым ансамблі мела месца на творчым шляху дойліда Спампані ў папярэдні, «дазаваўскі» перыяд, трэба меркаваць, што пасля яшчэ ранейшай працы над праектам палацавага комплексу ў Паўлава для рэферэнта Вялікага княства Літоўскага Паўла Ксаверыя Бжастоўскага блізу Вільні (1775 г.). Альбінскі праект быў адным з буйнейшых і прэстыжных у творчай біяграфіі дойліда на раннім этапе. Безумоўна, ён і адпрацаваныя ў ім элементы, прыёмы, схемы, прынцыпы забудовы паўплывалі або паўнавартасна ўвайшлі ў стылістыку архітэктурнай дзейнасці Карла Спампані і натуральна былі ўжытыя на наступным, вызначальным этапе кар'еры маладога італьянскага дойліда — пры ўзвядзенні ўзорнага, эмблематычнага па сутнасці архітэктурных дасягненняў палацавага комплексу ў Заслаўі. Не варта скідваць з рахунку, што заказчыкам заслаўскага палаца выступіў Дамінік Аўгуст Пшаздзецкі, на той час ужо зяць Радзівілаў. І бацькі яго жонкі Ганны маглі параіць маладому Пшаздзецкаму выкарыстаць лепшыя прынцыпы ў архітэктурных набытках Альбы з мэтай адаптавання іх пад заслаўскія ўмовы і абставіны. Верагодна, з гэтых прычын паўстала ідэя будаўніцтва Эрмітажа ў Заслаўі, у якім у далейшым вырашана было размясціць бібліятэку, карцінную галерэю і, верагодна, сцэну для пастаноўкі спектакляў, як гэта было прынята ў многіх іншых палацавых комплексах.

Пэўныя параўнанні і аналогіі з заслаўскім Эрмітажам можна правесці і паводле яшчэ аднаго «дазаслаўскага» архітэктурнага аб'екта Спампані — будынка бібліятэкі палаца Храптовічаў у Шчорсах. Вядома, што малады творца працаваў над шчорсаўскімі праектамі ў 1773—1776 гадах у садружнасці славутых і запатрабаваных на прасторах Вялікага княства Літоўскага дойлідаў — італьянца Дж. Сака і француза Я. Гаўрыела. Даследчыкі архітэктуры падкрэсліваюць, што гэта была адна з самых моцных па творчым патэнцыяле каманда еўрапейскага ўзроўню. (12—229). Шчорсаўская бібліятэка месцілася ў двух будынках. Адна яе частка знаходзілася ў галоўным корпусе палаца, на верхнім паверсе папярочнага купальнага корпуса. Апрача кніг, у ёй была карцінная га-

лерэя ў 100 палотнаў (12—29). Хутчэй за ўсё гэта была парадная частка бібліятэкі Храптовічаў, дзе адбываліся афіцыйныя прыёмы і сустрэчы. Другая ж размясцілася ў асобным будынку, у зацішнай частцы парка, паблізу ад вадаёмаў. У такіх умовах лёгка было заставацца сам-насам з кнігай, нібы тыя пустыннікі ў старадаўняй Італіі, што будавалі першыя эрмітажы. Адпаведна карце Заслаўя 1812 года і ўспамінам старажылаў горада заслаўскі Эрмітаж знаходзіўся ў непасрэднай блізкасці да штучных вадаёмаў. Яны, гэтыя вадаёмы, не належалі да заслаўскай штучнай сістэмы абваднення часоў Глябовічаў. Адсюль можна рабіць высновы, што праектаваў і ўзводзіў іх, як і ўвесь палацавы комплекс Пшаздзецкіх, Карла Спампані. Такім чынам, хаця ў захаваных дакументах паводле шчорсаўскай бібліятэкі мы не сустрэлі яе прамой назвы Эрмітажам, але па вызначальных архітэктурных параметрах і паводле прызначэння гэты будынак, як і яго аналаг у Заслаўі, непасрэдна адпавядае гэтай назве ў распаўсюджанай па тым часе на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага характарыстыцы, тыпалогіі і функцыянальнасці.

*3) З XVIII стагоддзя Эрмітаж служыў сімвалам саду, побач з якім знаходзіўся (11—91).* Калі абагулена ўспрымаць вобраз сада і атаясамліваць яго з вобразам паркавай сістэмы, то які парк сімвалізаваў Эрмітаж Пшаздзецкіх у Заслаўі?

На пачатку размовы пра садова-паркавы комплекс пры палацы Пшаздзецкіх у Заслаўі неабходна сказаць, што з аднаго боку ў пэўнай ступені беларусы былі пачынальнікамі паркавай культуры ў Еўропе (першым, вядомым з літаратурных крыніц беларускім садоўнікам быў Францыск Скарына, які ў апошнія гады жыцця стварыў адзін з першых рэнесансных садоў ў Еўропе — батанічны сад наГрадчанах пад Прагай: як знаўца батанікі, ён быў запрошаны на пасаду майстра (садоўніка) каралём Фердынандам. Садоўнікам працаваў у Чэхіі і сын Скарыны Сымон, які атрымаў адукацыю ў Карлавым універсітэце ў Празе) (11—35). З другога боку — распаўсюджанай з'явай садовыя і паркавыя комплексы на тэрыторыях Вялікага княства Літоўскага сталі толькі ў эпоху барока, а да гэтага, у часы Рэнесансу, стварэнне такога было выключнай прэрагатывай і дадаткам да самых багатых родавых замкаў (11—44). Трэба заўважыць, што палац магнатаў Глябовічаў у Заслаўі, папярэднікаў Пшаздзецкіх, якраз належаў да такіх.

Замак Глябовічаў быў абваднёны. Гэта сістэма, наладжаная ў XVI стагоддзі, дзякуючы захаванаму комплексу ставоў добра працавала да XVIII стагоддзя, і эпізадычна — ажно да пачатку XX, аб чым сведчаць старыя фотаздымкі. Паводле праекта Спампані «глябовіцкая» сістэма абваднення ўвайшла па правым фланзе ў структуру палацавага комплексу Пшаздзецкіх, дзе па цэнтральной восі месціўся палац, а з левага флангу, арыентаванага ўраўнаважана аб'ёмам правай кампазіцыі, быў спраектаваны новы садова-паркавы комлекс, заснаваны на двух прыродных ландшафтных пляцоўках — верхняй і ніжняй. На верхняй, разам з палацавым ансамблем, месціўся Верхні парк рэгулярнага характару з невялікімі купкамі дрэў, што са шматлікімі кветачнымі рабаткамі атачалі альтанкі,

фантаны са скульптурай (на тэрыторыі, паводле дакументаў і шматлікіх сведчанняў старажылаў Заслаўя, па драўляных жолабах быў праведзены вадаправод), і выставачныя павільёны: яшчэ Антоній Пшаздзецкі дабіўся права на правядзенне чатырох кірмашоў на год, і гэта традыцыя доўга захоўвалася.

У ніжняй зоне паркавага ансамбля быў утвораны Ніжні парк, які насіў пейзажны характар. Яго перасякалі ліпавыя алеі (гл. фота 3), рэчка Крылаўка з прытокам і штучныя вадзяныя каналы (фота 4, 5). Дно і бакі аднаго з іх, найболей шырокага, паводле ўспамінаў старажылаў Заслаўя, былі аблямаваныя натуральнымі камянямі. Па гэтым канале панічы з паненкамі каталіся на лодках, а ў канцы яго была створана купальня (фота 6). З Верхняга парка ў Ніжні вялі драўляныя лесвіцы (фота 7), а праз рэчкі і каналы былі перакінутыя адмысловыя драўляныя масты (фота 8). Уздоўж дарогі, што ішла са старой часткі горада паралельна фасадам палаца, пасля Верхняга і Ніжняга паркаў падоўжаным прамавугольнікам размяшчаўся фруктовы сад (гл. схему паводле карты 1812 года і эксплікацыю). У летні перыяд па алеях парка расстаўляліся драўляныя лаўкі (фота 9), а самі алеі завяршаліся тынкаванымі звонку альтанкамі. Акрамя сістэмы водаправода (фота 10), палац меў у сваёй структуры водалячэбніцу, слава аб якой была распаўсюджана далёка. Тэрыторыя палаца з паркамі была абнесена каменным плотам, а ўезд да палаца налева з дарогі на шляху са старога Заслаўя абрамляла магутная ўязная брама.

Ужо гаварылася аб тым, што на тэрыторыі палацавага комплексу ў Заслаўі рэгулярна праводзіліся кірмашы. Акрамя гаспадарчай тэхнікі, прадуктаў харчавання і іншага, на іх прадаваліся прылады і творы выяўленчага мастацтва (фота 11, 12).

*I) Адным з адметных тавараў на кірмашах былі коні Заслаўскага коннага завода.*

Яны атрымлівалі разнастайныя ўзнагароды на выстаўках у Расіі і ў Еўропе, і іх з задавальненнем закуплялі і вывозілі ва ўсе канцы свету. Сустракаюцца звесткі, што была выведзена спецыяльная заслаўская парода коней, якая асабліва славілася. Перад пачаткам кірмашу арганізоўвалася парадная выездка коней па спецыяльнай алеі, што пралягала ад коннага завода.

Пра слынныя заслаўскія кірмашы канца XVIII — пачатку XIX стагоддзяў знаходзім наступную звестку: «Кірмашы са святамі праходзяць 16 чэрвеня і 8 верасня, і на іх на працягу аднаго дня розных людзей бывае да 20 700 асобаў абеега пола (13). На гэтых кірмашах распрадавалі сельскагаспадарчую прадукцыю, якая выраблялася ў гаспадарках Заслаўскага графства: Заслаўе ў XVII—XVIII стагоддзях было цэнтрам графства, што складалася з чатырох войтаўстваў з 28 вёскамі, 6 фальваркамі і 13 засценкамі (14—203, 252, 253, 254). Асноўным і прыярытэтным заняткам у графстве была сельская гаспадарка. Антоній Пшаздзецкі ад самага пачатку ўладання ім імкнуўся зрабіць яе ўзорнай. (15—442, 443). Аналіз гэтай буйной сферы дзейнасці Пшаздзецкага ў Заслаўскім граф-

стве ўвогуле, і ў Заслаўскім палацавым комплексе ў прыватнасці, не ўваходзіць у кола тэм дадзенага даследавання. Тым не менш адзначым, што заслаўскія кірмашы, якія ўжо колькасцю іх наведвальнікаў даюць уяўленне пра маштабнасць і грунтоўнасць гэтай гаспадаркі, традыцыі і лепшыя напрацоўкі якой працягваліся і пры наступных гаспадарах Заслаўя, аб чым пераконваюць у тым ліку і фотаздымкі стацыянарных кірмашовых павільёнаў пры палацавым комплексе нават на пачатку XX стагоддзя (фота 11—12), сталі адметнай часткай гаспадаркі Заслаўскага графства пры Пшаздзецкіх. Тэрытарыяльна гаспадарчая частка палаца займала дзве трэціх агульнай тэрыторыі палацавага комплексу.

*К) Аналіз архітэктурнай часткі Заслаўскага палацавага комплексу на сённяшні дзень можа насіць эпізадычны характар.* Асновай для яго можа служыць план паводле карты 1812 года і апісанні забудоў і гаспадаркі палаца паводле інвентароў. Пакуль што, апрача ўжо зробленай ацэнкі планіровачнай структуры ансамбля, можна гаварыць пра рысы французскай архітэктурнай моды, паводле якой магнацкая рэзідэнцыя размяшча-





Фота 1—2. Эрмітаж (бібліятэка, карцінная галерэя) у Верхнім парку пры палацы Пшаздзецкіх (цяпер будынак Дома дзіцячай творчасці ў Заслаўі)



Фота 3



Фота 4



Фота 5



Фота 6

Фота 3. Ніжні і Верхні паркі пры палацы Пшаздзецкіх перасякалі ліпавыя алеі.
Фота 4 – 5. Ніжні парк палаца насіў пейзажны характар.
Яго перасякалі рэчка Крылаўка з прытокам і штучныя вадзяныя каналы.
Фота 6. Купальня ў Ніжнім парку, у тарцы штучнага канала.



Фота 7



Фота 8



Фота 9



Фота 10

Фота 7. Лесвіца з Верхняга парку ў Ніжні.
Фота 8. Праз рэчкі і каналы былі перакінуты адмысловыя драўляныя масты.
Фота 9. Па алеях парку ў летні перыяд расстаўляліся драўляныя лаўкі.
Фота 10. Сістэма вадаправода ў палацавым комплексе Пшаздзецкіх.



Фота 11




Фота 12

Фота 11 – 12. Выставачныя павільёны на заслаўскіх кірмашах на тэрыторыі Верхняга парку.

лася наўкол унутранага двара (гэтак званы курданэр). Будынкам палацавага ансамбля было ўласціва дакладнае чляненне архітэктурных аб'ёмаў і форм. Завяршаліся палацавыя карпусы высокім мансардным паверхам (паводле інвентароў і фрагментаў панарамы Заслаўя Леона Баратынскага). Перад забудовамі галоўнага корпуса палаца і Эрмітажа былі распрацаваны цудоўныя кветачныя партэры. Перад палацам, замыкаючы парадны двор, размяшчаліся два рады аднапавярховых флігеляў. У першых двух, што знаходзіліся бліжэй да дарогі, размяшчалі карэтны двор і невялікую стайню. Знешне будынкі флігеляў былі аб'яднаныя паміж сабой уязной брамай, а з палацам — агульным плотам. Фарміравала іх у адзіны архітэктурны ансамбль магутная, хутчэй за ўсё каваная, уязная брама.

**IV. Заключэнне.**

1. Палацавы комплекс у Заслаўі ў параўнанні з другімі індывідуальна-аўтарскімі праектамі Карла Спампані:

— палац у Берніцы (1779—1781) для старасты ашмянскага Тадэвуша Коцеля;

— палац у Рагожніцы (другая палова XVIII ст.);

— палац у Юсцінаве (1779—1783) для пісара ВКЛ Юсціяна Шчыта;

— палац у Паўлаве (1775) для рэферэнта ВКЛ Паўла Ксаверыя Бжастоўскага;

— палац у Сёмкаве (другая палова XVII ст.) для мінскага ваяводы Адама Хмары;

— кухцінская сядзіба (другая палова XVII ст.) для камергера караля, генерала каралеўскага войска Казіміра Завішы;

— палацавы комплекс у Радзіваламонтах (1780) для Юрыя Радзівіла і іншымі — займае адно з першых месцаў па значнай манументальнасці вобраза, гарманічнасці ўвядзення яго ва ўжо існуючы гісторыка-культурны асяродак; удаламу спалучэнню архітэктурнага ансамбля з сістэмай паркаў і садоў ды маштабнай, добра прадуманай і ўдала сфарміраванай у прасторы гаспадарчай часткі.

2. Паводле заключэння беларускіх аналітыкаў палацава-паркавых комплексаў Міншчыны А.Т. Федарука, В.А. Чантурыі, Т.В. Габрусь, А.Н. Кулагіна, дойлід Карла Спампані называецца адным з выбітных і прагрэсіўных творцаў на гэтых тэрыторыях у другой палове XVIII ст. А значыць, і лепшае яго тварэнне — палацава-паркавы комплекс у Заслаўі — з'яўлялася ў часы яго ўзвядзення адным з узорных і адметных.

3. Пры стварэнні Заслаўскага комплексу ў садружнасці з мастакамі Францішкам і Антоніем Смуглевічамі, скульптарам і дэкаратарам Каралем Ельскім ды лепшымі беларускімі будаўнікамі Карла Спампані здолеў сумясціць у агульным рашэнні праекта высокі ўзровень рэпрэзентатыўнасці, сугучнай еўрапейскім архітэктурным тэндэнцыям другой паловы XVIII ст., і разумную арганізацыю даволі ёмістай гаспадарчай часткі, што адпавядала аператыўнаму і творчаму засваенню перадавых праяў капіталістычных зносін у Вялікім княстве Літоўскім гэтай эпохі.

4. Арганізацыя палацава-паркавага комплексу ў Заслаўі ды яго архітэктурнае вырашэнне адлюстравалі тэндэнцыі архітэктурна-мастацкай культуры краіны пераходнага перыяду ад барока да класіцызму.

5. Асноўная дзейнасць на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага і лепшыя творчыя дасягненні Карла Спампані былі здзейснены ў перыяд яго побыту і працы пры гаспадарцы Пшаздзецкіх у Заслаўі. Тут, можна сказаць, знаходзіўся эпіцэнтр здзяйснення яго камерцыйных, творчых і жыццёвых задум. Таму заслаўскі перыяд дзейнасці таленавітага і працавітага італьянскага дойліда, які трапна ўвайшоў у кантэкст старадаўняй беларускай культуры і тактоўна ўвёў у яе мастацка-культурныя дасягненні новай эпохі, можна назваць ЗАЛАТЫМ ВЕКАМ на творчым шляху Карла Спампані, здзяйсненні якога на беларускіх землях ужо названы класікай архітэктуры другой паловы XVIII стагоддзя.

## V. Спасылкі:


1. Кулагін А.Н. Архітэктура палацава-сядзібных ансамбляў Беларусі. Мн.; «Навука і тэхніка», 1981, ст. 17.

2. Кулагін А.Н. Абарончая і палацава-сядзібная архітэктура XV — пачатку XVIII стст. // Архітэктура Беларусі. Нарысы эвалюцыі ва ўсходнеславянскім і еўрапейскім кантэксце. У чатырох тамах. Том 2. XV — сярэдзіна XVIII стст. Мн.: «Беларуская навука», 2006.

3. Дзянісаў Н.М. Заслаўскі парафіяльны касцёл // «Памяць. Заслаўе», Мн., 2000, ст. 86.

4. Кулагін А.Н. Элітная архітэктура барока Беларусі ў агульнаеўрапейскім кантэксце.// Барока ў беларускай культуры і мастацтве. Мн.: «Беларуская навука», 1998.

5. Генеральны Візіт Заслаўскага касцёла Св. Юзафа, складзены 7 кастрычніка 1819 года. Аддзел рукапісаў Кракаўскага ўніверсітэта, справа 6331- IV.

6. Зборнік од, паэм, панегірыкаў і дыфірамбаў дзеля Заслаўскага касцёла. Захоўваўся ў бібліятэцы Акадэміі Літвы — РОБАН Літвы, ф. 21 — 937.

7. Шышыгіна К.Я. Музы Нясвіжа. Мн., 1986.

8. Witold Kieszkowski (Z.A.P.) — Carlo Spampani, architekt wloski, czynne w Polsce w XVIII w.

9. Горохов В.А., Луну Л.Б. Парки мира. М., «Стройиздат», 1985.

10. Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Мінская вобласць. Кніга 2. Мн.,1987.

11. Федорук А.Т. Старинные усадьбы Минского края. (Серия «Старинные усадьбы Беларуси». Мн., «Паліфакт» — «Лекция» — 2000, Ф 16 С.

12. Шчорсаўскі палацава-паркавы ансамбль. // Страчаная спадчына. Укладальнік Т. Габрусь. Аўтары: Т. Габрусь, А. Кулагін, Ю. Чантурыя, А. Квітніцкая, М. Ткачоў. Мн., «Полымя», 1998, ст. 227-230.

13. ЦДГА, ф. 295, воп. I, ад. Зах.74.

14. Акты, издаваемые Виленской археологической комиссией: Декреты Виленского Трибунала. Вильно. 1888, Т. 15.

15. Slownik geograficzny ziem polskich. T. XIV. W-wa. 1895.

**Гаранская Т. Г.**

# Да пытання аб паходжанні аховы Рагнеды на «Замэчку»

Эпоха Рагнеды несла ў сабе два супрацьлеглыя пачаткі — хрысціянскай мудрасці і міласэрнасці (гэты пачатак увасабляла дачка полацкага князя Рагвалода — Рагнеда, а потым і яе сын Ізяслаў, у гонар якога быў названы горад), а з другога боку — вайсковай доблесці і непрымірымасці ў барацьбе за пашырэнне родавых тэрыторый, а потым іх захавання і абароны ад супраціўніка (гэты аспект сацыяльнага, палітычнага і грамадскага мыслення ўвасабляў кіеўскі князь Уладзімір — бацька Ізяслава і муж Рагнеды).

Калі родавыя этнічныя асаблівасці ў жаночым адзенні ўвасабляліся праз скроневыя колцы, якія падвешваліся да скроняў на жаночых і дзявочых галаўных уборах, то падобнага кшталту адрозненні, узмоцненыя абагульненнем іх да родавай геральдыкі (у дружыннікаў), увасабляліся ў мужчынскім адзенні праз арнаментыку і знакавасць на паясах. Такія знакі былі характэрныя як для ўзораў тканых паясоў, так і для арнаментаў на металічных бляшках, што мацаваліся па перыметры скураных паясоў ваяроў — абаронцаў роду, якіх на славянскіх тэрыторыях па тым часе называлі дружыннікамі, а ў Еўропе — рыцарамі.

Абаронай родавых тэрыторый займалася пад час асады іх ворагам усё мужчынскае насельніцтва, якое, апроч таго, і ў мірны час несла вайсковыя павіннасці. Але справа абароны насельніцтва, вайсковых паходаў як неад'емнай часткі побыту ў X—XII стст., належала спецыяльна абучаным людзям, якіх называлі дружыннікамі. Гэта былі асобы з адметнай псіхалогіяй, адпаведна якой мірны побыт успрымаўся цяжарам, а вайна і вайсковыя паходы выглядалі не толькі годнай формай жыцця і побыту, але і асноўнай крыніцай здабыткаў, бо акрамя як ваяваць рыцар-дружыннік нічаму іншаму не навучаўся. Існавалі і вандроўныя рыцары-дружыннікі, якіх наймалі сабе для службы князі. Не выключэннем быў і кіеўскі князь Уладзімір. А былі вайскоўцы, якія наймаліся на службу цэлымі дружынамі, калі вайна і вайсковыя паходы былі традыцыйным заняткам для ўсяго народа. Такія былі ў венграў (хунграў або ўграў — так іх называлі ў летапісах) — да X—XI стст. іх вайсковыя традыцыі і культура налічвалі некалькі стагоддзяў.

Вядома, што перадкалыскай родавай культуры венграў з'яўляюцца прырэчча Камы і вусце ракі Урал. Народ, які сфарміраваўся ў гэтым рэгіёне, у сваёй вандроўцы на захад у так званы перыяд «захопу айчыны», закладае паселішчы. Адно з іх — гарадзішча на рацы Лыбедзі, што лакалізавалася паміж Дняпром і Донам. Гэта тое самае месца, куды ў X стагоддзі княгіняй Вольгай была сасланая яе ключніца Малуша — жонка Святаслава, дачка драўлянскага князя Малка, сястра першага дружынніка пры Уладзіміры Чырвонае Сонейка — Дабрыні і маці

Уладзіміра, будучага кіеўскага князя. Гэта тое самае месца, куды ў далейшым, пасля прыняцця хрысціянства і жаніцьбы на візантыйскай царэўне Ганне (адпаведна гістарычным звесткам), ужо кіеўскі князь Уладзімір саслаў папярэднюю жонку Рагнеду, і дзе яна нарадзіла сына Ізяслава.

Сувязі князя Уладзіміра з венгерскімі дружыннікамі і іх гісторыя вартыя шырокага і шматпрофільнага даследавання як праз аналіз летапісных звестак, так і праз вывучэнне здабыткаў археолагаў і дэшыфроўку знакавых артэфактаў той эпохі, прыналежных да пачаткаў і гісторыі культуры венграў. Пры скразным аглядзе праблемы можам сказаць, што ў «Повести временных лет» (ПСРЛ, т. I, ст. 86) змешчана звестка аб тым, што князь Уладзімір Святаслававіч меў цесныя стасункі з угорскім князем Стэфанам. У Нікольскім летапісе (звод XVI ст.) ёсць звестка аб прыбыцці на Русь у 1000 годзе паслоў ад венгерскага караля (ПСРЛ, т. 9).

Пры зверцы паясных пласцін з пахаванняў дружыннікаў венгерскага паходжання ў Польшчы і Расіі з пласцінамі і выявамі на іх і на паясах дружыннікаў могільніка № 1 (пры «Замэчку») у Заслаўі (матэрыялы раскопак Даўгялы і Зайца) прыходзім да высновы — яны падобныя. Адсюль заключэнне: аховы сваёй былой жонкі Рагнеды і сына Ізяслава кіеўскі князь Уладзімір не давяраў ні заслаўскім, ні кіеўскім дружыннікам. Гэту задачу выконвалі адборныя дружыннікі венгерскага паходжання.

Літаратура:

1. Andrzej Koperski. Smentarzysko «staromadziarskie» w Przemyslu // rocznik XLIV «z otchlani wiekow» № 3, 1979, ss. 201 — 208.

2. История Венгрии. Т.1, М., 1971, издательство «Наука».

3. Заяц Ю.А. Зброя блізкага бою, рыштунак конніка і верхавога каня з раскопак Заслаўя. // Помнікі культуры. Новыя адкрыцці. Мн., 1985.

**Доўнар А. Б.,**
інстытут гісторыі НАН Беларусі, Мінск

# Гаспадарчая інструкцыя заслаўскаму эканому 1759 г.

Да сярэдзіны XVIII ст. сельская гаспадарка на тэрыторыі Беларусі пераадолела крызісныя з'явы, звязаныя з ваеннымі разарэннямі пачатку XVIII ст. і працягвала паступова развівацца згодна з рыначнай кан'юнктурай. Асновай развіцця ў прыватнаўласніцкіх маёнтках была панская (фальваркавая) гаспадарка. Панская адміністрацыя ў гэты час шукала разнастайныя шляхі па павышэнню даходнасці і інтэнсіфікацыі вядзення гаспадаркі, у сувязі з чым атрымала шырокае распаўсюджанне практыка выдання падрабязных інструкцый для прадстаўнікоў гаспадарчай адміністрацыі.

Яскравым прыкладам такіх дакументаў з'яўляецца інструкцыя заслаўскаму эканому 1759 г. (у гэты час Заслаўскім графствам валодалі Пжаздзецкія). Эканом з'яўляўся галоўным упраўляючым па гаспадарчых пытаннях усяго графства. Дадзеная інструкцыя захоўваецца ў аддзеле рукапісаў бібліятэкі Вільнюскага ўніверсітэта (фонд F4, справа А3586, другі спіс гэтай інструкцыі знаходзіцца ў справе А1585 таго ж фонду) пад назвай: «Апісанне ўраду і ўлады пана эканома Заслаўя».

Інструкцыя мае прадуманую лагічную структуру, усяго яна змяшчае 73 пункты. Яна характарызуецца грунтоўным зместам. Найперш у інструкцыі была вызначана сфера кампетэнцыі эканома. Пад яго ўладу падпадалі і падлягалі яго кантролю ўсе падданыя, усе прадпрыемствы, уся гаспадарка графства:

— мясцовая панская адміністрацыя: адміністратары (падстарасты) фальваркаў, пісар даходаў (правентавы), пісар кабачны і броварны;

— насельніцтва графства: мяшчане і яўрэі, арандатары, шынкары, зямяне, цяглыя і чыншавыя сяляне і «старшыя над імі»: харунжыя і падхарунжыя зямян, войты і цівуны, рабочыя (чэлядзь) фальваркаў;

— нерухомая маёмасць графства: землі графства, «дамы і сядзібы, засценкі, пусташы, лясы, пушчы, сенажаці, зараслі, прыробкі, млыны, ставы, сажалкі, грэблі», усе пабудовы, корчмы, «фолюшы, тартакі, прахоўні», паперні, бровары, шпіхлеры[1] і іншыя будынкі;

— пад асаблівым наглядам знаходзіліся борці ў пушчы, пасекі (бортнікі), хмельнікі, агароды, фальваркавы статак (абора) і месцы іх размяшчэння.

Пад асаблівым наглядам эканома павінны былі быць межы ўладання, каб ніхто з чужых людзей не наносіў шкоды графству [п. 64].

Інструкцыя эканому дае магчымасць рэканструяваць сістэму кіравання і гаспадарання ў Заслаўскім графстве ў канцы 50-х гадоў XVIII ст. Для аператыўнага кіравання маёнткам кожны тыдзень у эканома праходзіла

[1] Фолюш — сукнавальня; тартак — лесапільня; прахоўня — майстэрня па выпуску пораху; паперня — майстэрня па выпуску паперы; бровар — піваварня; шпіхлер — будынак для складзіравання тавараў: збожжа, сельскагаспадарчай прадукцыі і інш.



Сельскагаспадарчыя работы. Малюнак другой паловы XVII ст.

гаспадарчая нарада пры непасрэдным удзеле адміністратараў фальваркаў і войтаў. На гэтых нарадах адміністратары і войты давалі справаздачу аб выкананай працы: паведамлялі, як выконваліся распараджэнні эканома, як адбывалася паншчына і г. д. Эканом жа даваў распараджэнні аб выкананні неабходнай працы адносна кожнага фальварка на наступны тыдзень [п. 1].

Акрамя таго, эканом павінен быў кожны месяц аб'язджаць фальваркі графства і аглядаць, што ў кожным з іх неабходна рабіць; павінен быў правяраць, што планавалася зрабіць (згодна штомесячнаму рэестру, які вёўся штотыднёва), што было зроблена, што не было зроблена, чаму і па чыёй віне, хто ў чым правініўся — усё гэта запісвалася ў тым жа рэестры, які неабходна было захоўваць. У выпадку, калі б хтосьці з адміністрацыі ці рабочых фальваркаў у нечым правініўся, то такога патрэбна было замяняць больш здатным чалавекам. У час аб'ездаў эканом павінен быў сачыць, каб адміністрацыя фальваркаў захоўвала «цвярозасць і вернасць», павінен быў «экзаменаваць» адміністрацыю, каб кожны ведаў сваю службу адпаведна службовай інструкцыі [п. 2], у сувязі з чым усёй адміністрацыі прадпісвалася як мінімум адзін раз на месяц перачытваць інструкцыю, якую выдавалі кожнаму ўрадніку [п. 19]. Напрыклад, у час «экзамену» цівуна правяралася, як ён ведае, дзе і што было пасеяна, якое збожжа знаходзіцца ў фальварку, які аптымальны час абмалоту, калі патрэбна праводзіць пробны абмалот і г. д. [п. 3].

Згодна з інструкцыяй, эканом павінен быў сачыць, каб у графстве прымяняліся перадавыя прыёмы агратэхнікі. Ён павінен быў кантраляваць, каб пшаніцу сеялі толькі на добрай глебе, якую абавязкова патрэбна было ўгнойваць, ці зямля перад пасевам павінна была «адпачываць» пяць год [п. 24]. Эканом вызначаў, што і дзе сеяць. За ходам работ даглядалі адміністратары і цівуны фальваркаў, вясковыя войты, а эканом кантраляваў якасць выкананай работы. Прычым падкрэслівалася, што пад пасеў ячменю, гароху, пшаніцы глебу неабходна было араць і баранаваць тройчы, што забяспечвала б добрую апрацоўку глебы. Гэтай жа мэце служыла патрабаванне баранаваць толькі новымі баронамі [п. 23].

Эканом быў адказным за ўзровень развіцця жывёлагадоўлі ў графстве. Ён сачыў, каб зімой «слабую» жывёлу трымалі разам са слабай, а моцную з моцнай, і каб аслабленай жывёле давалі лепшы, а моцнай — звычайны корм, каб «ад восені і аж да Божага Нараджэння салому, ярыну з сенам

як для навукова-даследчай, так, безумоўна, і творчай працы з мастакамі наіва, спецыялістамі ў гэтай галіне. Заўважу, што мастакі — гэта вельмі чуллівыя, успрымальныя душы, якія лёгка параніць, пакрыўдзіць, але вельмі цяжка пачуць, пра што яны разважаюць.

Толькі пры выкананні гэтых галоўных напрамкаў пры стварэнні Музея інсітнага мастацтва Беларусі магчыма не толькі чакаць, але і атрымаць рэальныя вынікі музейнай працы, якая паспрыяе павелічэнню культурнага і мастацкага аўтарытэту не толькі наіўнага, але і традыцыйнага нацыянальнага беларускага мастацтва ў свеце. Магчыма, тады асабіста мне і тым, каго лёс накіраваў у старажытнае Заслаўе, не прыйдзецца задаваць пытанне: «быць альбо не...» Музею інсітнага мастацтва ў Беларусі.

**Рогач Л. Ф.**

# Корчмы ў гарадах Беларусі: маральныя стэрэатыпы паводзінаў у наведвальнікаў карчмы (XVI—XIX стст.).

...У карчме — нараджалі, жанілі,
У карчме — і лажылі ў труну.

*М. Чарот, паэма «Карчма»*

Неад'емным элементам гарадской забудовы ў гарадах Беларусі ў эпоху Сярэднявечча і Новага часу была карчма, якая з'яўлялася цэнтрам грамадскага, гандлёва-эканамічнага, а часам і культурнага жыцця тагачаснага насельніцтва. Корчмы ставіліся на найбольш людных месцах — на гандлёвых плошчах, на скрыжаваннях дарог, ля млына, бровару, ля мастоў, ля ўезду ў горад, а на Палессі, у прыватнасці на Прыпяці — на беразе [1, 26]. Храналагічна для даследавання абраныя XVI—XIX стст. — адрэзак часу, калі гэтыя ўстановы пачалі развівацца, потым зведалі найвялікшы ўздым сваёй дзейнасці і паступовы заняпад.

Метадалогія дадзенага даследавання грунтуецца на працы з апублікаванымі гістарычнымі пісьмовымі крыніцамі, з навуковай і навукова-папулярнай літаратурай. Пэўнае месца ў даследаванні займае выкарыстанне матэрыялаў фальклорнай спадчыны, што насычана народнай мудрасцю і назіральнасцю. Важкую характарыстыку карчомнага жыцця даюць творы беларускай літаратуры, дзе на фоне карчмы разгортваюцца разнастайныя падзеі, а таксама аналіз графічнага матэрыялу — карцін, гравюр, выяў.

Прыступаючы да раскрыцця тэмы даследавання, трэба адзначыць, што эмацыянальны, духоўны, псіхалагічны асяродак карчмы з маральнымі стэрэатыпамі, што панавалі ў гэтай установе, фарміраваўся ў непасрэднай залежнасці ад яе функцыянальнага прызначэння. Карчма — гэта ў першую чаргу месца, дзе гандлявалі разнастайнымі напоямі (мёд, піва, квас, гарэлка, віно), прадуктамі харчавання і рознымі іншымі рэчамі (свечкі, сена, салома). Тут можна было зняць пакойчык, хаваючыся ад начы альбо непагадзі [2, 380]. Задавальняючы самыя неабходныя на той момант патрэбы чалавека, карчма фарміравала сацыяльны склад сваіх наведвальнікаў. Тут у першую чаргу бавілі час мясцовая жыхары: сяляне, рамесны і гандлёвы люд, служылыя людзі, чыноўнікі, інтэлігенцыя. Не міналі карчму вандроўнікі, пілігрымы і, канешне, жабракі. У карчме можна было сустрэць і духоўных асоб, служыцеляў царквы. Становіцца зразумелым, што сацыяльны склад наведвальнікаў карчмы вельмі шырокі, стракаты [3, 53-54]. І кожны

чалавек, што заходзіў у карчму, прыносіў у сабе пэўны псіхалагічны стан, які непарыўна мог праяўляцца ў знешнім выглядзе чалавека, у яго размовах і прамовах і, канешне, уплываць на астатніх. Гэты ж чалавек у сваю чаргу сам зведваў такі ж уплыў з боку тых людзей, якія таксама знаходзіліся ў карчме, бо чалавек не можа ізаляваць сябе цалкам, паставіць сценку паміж сабой і грамадствам. Заўсёды будуць з'явы, што стануць праціскацца праз гэтую заслону, разбураць яе. І гэта гаворыць аб сімбіёзе, узаемаўплыве на сацыяльным, эмацыянальным і культурным узроўні. Такі працэс адбываўся праз перадачу думак, звычак, нораваў, праз сутыкненне светапоглядаў. Усё гэта стварала сваю адметную непаўторную карчомную атмасферу, вылівалася ў падзеі і ва ўчынкі канкрэтных асоб у канкрэтных абставінах.

Ды й людзі ішлі ў карчму не проста, каб «узяць чарку», паесці ці паначаваць. Відавочна, што нейкая іншая сіла прымушала ступіць на ганак гэтай установы. І, напэўна, гэтая сіла, тое, без чаго не можа выжыць ні адна сацыяльная істота, — гэта чалавек, элементарныя зносіны з ім, размова і, як становіцца зразумелым з вышэйсказанага, неабходнасць пагаварыць, падзяліцца думкамі, штосьці даведацца і расказаць. Дзейнічаў так званы псіхалагічны фактар — выгаварыцца, каб стала лягчэй. Вось тут раскрываецца не проста спажывецкая ўтылітарная функцыя карчмы, а яе псіхалагічная значнасць для чалавека. Такіх магчымасцяў псіхалагічнай разгрузкі існавала вельмі шмат, бо корчмы былі вельмі распаўсюджанай з'явай, а асаблівы пік іх існавання прыпадае на канец XVII — пачатак XVIII стст., калі корчмы былі у кожным горадзе, мястэчку, вёсцы.

Часам карчма была адзіным месцам, дзе можна было сабрацца разам усім насельнікам пэўнай вёскі, мястэчка, каб абмеркаваць тыя ці іншыя пытанні, актуальныя для іхняга населенага пункта, альбо разам прыняць рашэнне ці адразу правесці судовае пасяджэнне. У корчмах заключаліся і гандлёвыя здзелкі. Так, у адной з магілёўскіх корчмаў у 1588 годзе «гдышь сидели у шинка беседы за свой властный кошт вжываючи» паміж двума гараджанамі была заключана здзелка аб продажы белкавага футра [4, 44]. У Расійскай імперыі заключаліся яшчэ больш неардынарныя здзелкі: у Аляксандраўскім павеце два знаёмыя сыйшліся ў шынку і пачалі размаўляць аб нядаўнім кірмашы і аб вялікай дарагавізне на коней. Адзін з іх стаў скардзіцца на сваю жонку, і тады яго суразмоўца кажа: «продай её лучше мне, кожу тебе». І жонка была прададзена за 8 рублёў [7, 331]. Але жонку можна было не толькі выгадна прадаць у шынку, але і прапіць, як такое зафіксавана пісьмовымі крыніцамі [7, 333]. Пад час кірмашоў карчма была галоўным месцам, дзе можна было засведчыць заканчэнне гандлю, набыццё пакупак і «распіць магарыч» — адзначыць заключэнне нейкіх пагадненняў. І такіх «дзелавых» суполак у карчме заўсёды было вельмі шмат. Праўда, «распіццё магарычу» часам заканчвалася тым, што некаторыя былі ўжо не ў стане патрапіць да сваіх фурманак і вярталіся дадому на чужых і ў зусім іншае месца [23, 638].

Як бачна, карчма выконвала і шырокія грамадскія функцыі. Гэта праяўляецца яшчэ і ў тым, што тут прымалі і праводзілі гасцей з іншых гарадоў, паслоў з другіх дзяржаў: «...у карчме Пашкоўскай (Магілёў. — **Аўт.**) падчас выправаджэння паслоў да Варшавы, гарэлкі выпілі...» [5, 65]. Калі ў горад прыязджалі важныя госці, то іх звычайна прымалі ў ратушы, і ўжо не было неабходнасці ісці ў карчму, але карчма тады станавілася пастаўшчыком пітва, прадуктаў і іншых рэчаў на сустрэчу: «...у корчме Пашковской набрано водки простой и оковитой, пива, за свечи заплатили также» [6, 152]. Альбо «... заплатили за пиво, што разными часами на ратушь набрано...» [5, 37].

Аднак раскрываючы змест грамадскіх, сацыяльных і псіхалагічных функцый карчмы, нельга адмовіць тое, што ўсё ж такі гарэлка многае вызначала ў змесце яе жыцця. Савецкая гістарычная навука паказвала карчму як месца, дзе актыўна разбэшчваўся народ, духоўна і маральна каціўся ўніз. А саму карчму прыпісвала характэрнай толькі Беларусі, Польшчы, Літве. У такім выпадку паўстае справядлівае пытанне: а куды ж падзеліся з-пад увагі рускія кабакі, якія паўсюль існавалі ў Расійскай імперыі і ў першую чаргу на ўласна рускіх землях? Аднак дзе б ні стаяла карчма, гарэлка сапраўды калечыла лёсы многіх людзей. Вось як А.П. Забалоцкі-Дзесятоўскі ў сваёй заметцы 1841 года апісвае сітуацыю з гэтай справай у Расійскай імперыі: «Ежели вы встретите в казенной деревне разрушенные избы, бедность, бо́льшую против обыкновенной, народ худой, испитой, крестьянок, едва имеющих подобие женщин, детей несчастных, полунагих, поля необработанные по неимению лошадей, то будьте уверены, что в самом селении или поблизости есть кабак». І тут жа дадае не менш суцяшальную замалёўку: «Страсть к пьянству рождает в мужике беспечность, однажды от него разорившись, он уже не в силах остановиться, не выносит удара, но предается страсти своей еще больше, пьет «с горя» и из семьи своей делает толпу нищих» [7, 293-295].

Што ж адбывалася на землях беларускіх? Тут гарэлка таксама мела сваю папулярнасць, бо яна прыносіла сапраўды вельмі вялікі прыбытак, і можна без сумневу сказаць, што спіртнога ўжывалі досыць шмат, і гэта прасочваецца па прыходна-расходных кнігах гарадоў. Становіцца відавочным, што галоўнай крыніцай прыбыткаў былі разнастайныя піцейныя зборы і шмат ішло выдаткаў па гэтай лініі на патрэбы гарадскога самакіравання [8, 3]. У пацверджанне даходнасці піцейнага промыслу такі прыклад. У старостве Маргенгаўзскім за 1765 год сабраны наступныя падаткі: за корчмы — 3419 талераў, у той час прыбытак ад чыншу склаў толькі 1466 талераў і іншыя паборы (за карыстанне возерам, выпасамі) — 441 талер [11, 279].

Пад уздзеяннем спіртнога чалавек у карчме разнявольваўся, пачынаў смялей выказваць свае думкі, праяўляць «сваё я», агучваў свае погляды, у якіх адлюстроўваліся разнастайныя жыццёвыя варункі, часам вальнадумства, свабодалюбства, скаргі на жыццё. Нездарма ў корчмах выспявала столькі антыпрыгонніцкіх ідэй і нават падрыхтаваны выступленні [9, 149-153]. Часам гучалі і антыцаркоўныя прамовы, як такое зафіксавана ў



Гравюра Жукоўскага «Ля беларускай карчмы»

карчме Магілёва. У чэрвені 1652 года гараджанін Іван Паўловіч пагражаў спаліць брацкую царкву: «Между прочим неоднократно и громогласно, с божбою, произносил следующую угрозу относительно братской церкви: в скором времени я сожгу этот еретический сарай так, что и следа не останется, а равно как и другие поносительные и богохульные слова» [10, 256]. Аднак вандроўнікі зазначалі, што п'янства на ўласна беларускіх землях не дасягнула такіх маштабаў, як гэта было на ўсходзе. Рускі вучоны А. Тут пісаў у сярэдзіне XIX ст.: «Да гонару гэтай краіны, мы павінны канстатаваць, што ў ёй спажыванне віна яшчэ ў даволі сціплых межах, не назіраецца павальнага п'янства, хаця ёсць шмат асоб, якія аддаюцца гэтай загане» [12, 42].

Пад уздзеяннем алкаголю чалавек вельмі лёгка мог згубіць пільнасць і стаць ахвярай злачынства альбо сам адважыцца на яго. Так, жыхар Магілёва Сцяпан у 1577 годзе 23 лістапада «подле корчмы шинковое пьючи горелку с людьми добрыми стратил ему листы потребные». І калі Сцяпан ачуняў, то зразумеў, што яго абакралі, і гэта дало яму падставу завесці ў судзе справу [4, 264]. Кралі ў корчмах адзін у аднаго і грошы. Так, у Крычаўскім магістраце ў 1571 годзе разглядалася справа аб «покраже пушкарём Матвеем Герчиком у жида Лейбы Панфилеевича 13 рублей». У ходзе справы выяснілася, што Лейба і сам украў гэтыя грошы. Прысуд магістрата быў наступны: Лейбу высекчы ля слупа, а Матвей павінен быў выплаціць штраф у гарадское самакіраванне [13, 309]. Карчмар абкрадаў сваіх наведвальнікаў. Гэта факт, які раскрывае імкненне карчмара да прыбытку, да павелічэння свайго даходу любымі спосабамі. Можна было разбавіць гарэлку вадой, дабавіць у яе дурнап'яну, даць гарэлкі ў доўг, а запісаць яго па свайму жаданню [9,



Б. Лалыка.
«Віцебская карчма»

150]. Калі некаму вельмі хацелася выпіць, але не было грошай, то тады гэткі п'яніца патаемна ад жонкі выносіў з хаты рознае дабро: «Латамі трасе, а астатняе ў карчму нясе» [23, 639].

Але, насуперак усяму, людзі ішлі ў карчму, калі не сказаць, што любілі яе, бо адчувалі сябе там абаронена і спакойна, нібы па-за небяспекай, а таму дазвалялі сабе часам розныя свавольствы, нават пайсці на грэх. Грэх, у тым разуменні, якое апісвае ўзаемаадносіны паміж мужчынам і жанчынай, перш за ўсё адносіны забаронныя, тыя, што паддаюцца асуджэнню грамадства з даляглядаў тагачаснай маральнасці. Корчмы ВКЛ не выглядалі цнатліва. У гістарычных крыніцах вельмі часта сустракаюцца пікантныя гісторыі. Вось, напрыклад, якія страсці разыгрываліся ў Магілёве. Еска Празаровіч адправіў сваю жонку Агрэну за півам у карчму. Урэшце праз нейкі час Агрэна вяртаецца дадому ў парванай кашулі і жаліцца, нібы Усцін Анушкевіч «замкнулся с нею в коморе где пиво было, гвалтъ над волей ее выполнил». Але далейшае следства выясніла, што ніякага гвалту не было, а Агрэна сама пайшла на гэтую сувязь добраахвотна. Агрэна ж была жорстка пакарана за падман і здраду [6, 273]. Ці такі выпадак, што адбыўся ў Магілёве ў студзені 1750 года. Раман Казакевіч і Анастасія Мелешкоўская былі «уличен-

ные в прелюбодеянии, што здарылось в шинку», уладаркай якога і была сама Анастасія. Раман жа меў жонку і дзяцей. Выяснілася, што шынкарка яшчэ займалася зводніцтвам у сваёй установе і здачай пакояў для «розных спраў». Улады горада вельмі хутка і жорстка адрэагавалі на гэта і вынеслі Анастасіі пакаранне: яна атрымала 30 розгаў ля слупа, выплаціла штраф і пад пагрозай невяртання пакінула Магілёў, а Раман толькі выплаціў штраф на магілёўскі гарнізон [14, 292-293]. Творы фальклора адлюстроўваюць такую з'яву, як зводніцтва. Вось як аб гэтым сведчыць народная песня «А ў горадзе на рынку»: //А ў горадзе на рынку / п'ець худоба гарэлачку, / а багаты дзівіцца, / чым худоба жывіцца. // Шынкарачка малада, /падай піва і віна! / ...Хоця я сам не сап'ю, таварышаў напаю! // Калі ты такі пан, я за цябе дзеўку аддам // [15]. Зрэшты, у гэтым творы зводніцтва заканчваецца тым, што заключаецца шлюб. Аднак калі зводніцтва адбывалася толькі дзеля распусты, то гэта строга каралася. Шукаючы хуткага заробку, пастаяннымі наведвальнікамі корчмаў былі жанчыны лёгкіх паводзінаў. Але магістраты беларускіх гарадоў рэгулярна ладзілі аблавы на такіх кабет і адпраўлялі іх на грамадскія працы. У 1666 годзе жанчыны найбольш старажытнай прафесіі са Слуцку самым непасрэдным чынам прычыніліся да ўмацавання абароназдольнасці свайго горада. Слуцкі магістрат «хочучи таких злых распуст загамовать» пастанавіў: «дзе б кольвек такая проститутка зловлена», павінна панесці работы па ачыстцы вуліц, равоў, а таксама павінна быць адпраўлена на замкавыя работы [19, 132]. Як бачна, карчма захоўвала ў сабе шмат спакусаў.

Аднак карчму наведвалі ў першую чаргу простыя людзі, сялянства, рамесны і гандлёвы люд — носьбіты аўтэнтычнай народнай культуры. І яны прыносілі гэтую культуру ў карчму, і тут яна знаходзіла сабе ўрадлівую глебу і хутка развівалася. Танцы, скокі, народныя гульні ды забавы, спевы, музыка. З карчмы даносіліся гукі скрыпкі, дуды, цымбал [3, 55]. Танчылі лявоніху, польку, бычка і казачка [16]. У карчме моладзь ладзіла свае забавы — «ігрышча». На такія мерапрыемствы часта прыходзіла шмат старэйшых людзей. І тады стаяў такі гоман і таўкатня, што магла заглушацца і музыка [23, 639]. Наладжвалі ў корчмах розныя святы, у прыватнасці вяселлі. Вяселлі гэтыя суправаджаліся вялікай колькасцю звычаяў, «что все торжество кажется цельным языческим священнодействием» [18, 59]. На гравюры Жукоўскага мы бачым беларускае вяселле ў прасторнай карчме [20, 237]. Тут праяўляюцца культуралагічныя функцыі карчмы.

Стаўленне да карчмы яскрава праявілася ў народным светапоглядзе. «Сацыяльна-бытавыя казкі» вылучыліся з вуснай народнай прозы як жанравая разнавіднасць фалькларыстамі XIX ст. Творы высмейваюць у крытычна завостранай форме заганы карчмара, што асабліва яскрава праявілася ў казцы «Карчмар і мужык». У яе аснове — сюжэт пра дурнякарчмара, які схаваўся ў мяшок ад лясных разбойнікаў і быў абрабаваны і збіты сваім жа фурманам. Выкрываецца баязлівасць карчмара, знерваванасць, і ў той жа час ён быў вельмі заможны [17, 55, 446]. У мараль-

ным народным кодэксе зафіксавана адмоўнае стаўленне шырокіх мас да п'янства: «Хто гарэлачку любіць, той сам сябе губіць», «Гарэлка і віно — кожнай справе зло», «Шынок пры дарозе — цягні ўсё, што ў возе», «Гаспадар у карчме п'е і скача — гаспадарка плача» [12, 42]. Ці яшчэ некалькі прыкладаў: «Гарэлка весяліць, ды ад яе галава баліць», «Ад гарэлкі будзе розум мелкі», «П'янства — чалавеку паганства», «Як п'ян, дык капітан, а як праспіцца, дык свінні баіцца» [15, 338-352]. Часам праз усведамленне шкоднасці і адмоўнага ўплыву гарэлкі на лёс чалавека праяўляецца і саркастычнае стаўленне да самога карчмара: «Шынкар п'яніцу любіць, ды дачкі за яго не аддасць» [15, 323].

Карчма заўсёды знаходзілася ў супрацьстаянні з царквою, з такой жа адказнасцю, як у царкву, чалавек ішоў у карчму. Карчма і царква — выступаюць цэнтрамі грамадскай арганізацыі на роўных. На Палессі казалі: «У цэркву і ў карчму, калі хоч можна зайсці, не пытаючыся нікога...», «...у цэркву ходзяць толькі ў нядзелю ды шчэ ў які-такі празьнік, а ў карчму будзённо; у цэркві толькі поп гамоніць, а людзі маўчаць да хрысцяцца, а ў карчме ляндар моўчкі налівае ды падносяць гарэлку, а хрышчоныя людзі п'юць ды гутараць» [23, 639]. Ля храма таксама было эканамічна выгадна арганізоўваць карчму. І нездарма захавалася прыказка: «Дзе поп царкву ставіць, там гандляр карчму ладзіць» [15, 323]. Адпаведна, царква выкрывала карчму, як месца распаўсюджвання зла і ліхадзейства, месца, дзе штодзень парушаюцца біблейскія запаветы, і там да душ людскіх чорнымі пачварамі чапляюцца розныя грахі. На Палессі, калі нехта ў свята замест царквы пойдзе ў карчму, то казалі: «У цэркві не быў, ды з шкляным богам гаманіў», захаваўся такі выраз як «шкляному богу маліцца» [23, 640]. Карчма, у народным светапоглядзе, была прытулкам не толькі народнай культуры, але і зборышчам ведзьмакоў, злых духаў і іншай нечысці. З большага такія перакананні магла выпускаць і царква, а часам і сам люд быў багаты на выдумкі. Верагодна, сваю ролю адыгрывала і тое, што вера карчмара-яўрэя была незразумелай хрышчонаму люду, здавалася дзівацкай і чужой. Чалавеку характэрна баяцца таго, што яму невядома. Часта карчму наведвалі падарожнікі, лірнікі, жабракі са сваімі дзівоснымі расповедамі. Госці часта наведваліся ўначы альбо пад вечар. Начныя госці ж заўсёды наводзілі на роздум і пасялялі ў сэрцы трывогу разам з зацікаўленасцю. Фантастыку існавання карчмы яскрава перадае верш Янкі Купалы «Забытая карчма». Карчма ў Я. Баршчэўскага — сапраўднае месца разгулу нечысці [20]. Вакол карчмы заўсёды панавала столькі эмоцый, што складвалася свая патаемная, фантастычная энергетыка.

Зусім відавочна, што да карчмы былі вельмі супярэчлівыя адносіны ў грамадстве. Вельмі дасціпна і дакладна даў характарыстыку карчмару Якуб Колас у сваёй паэме «Сымон-музыка»: «Шлёмку лаялі і білі, ды яготакі любілі, не мiналі яго дом». Карчма — гэта не проста гандлёвы дом, гэта цэнтр сацыяльнага жыцця, вірлівы, мітуслівы, гаманкі, актыўны. Карчма — месца, дзе кожны становіцца сам сабой. Месца, дзе многія шукаюць паратунку ад таго жыцця, што пануе знадворку. Карчма — цэнтр,

дзе віруе шмат чутак-плётак, гэта своеасаблівы інфармацыйны цэнтр. «Карчма — гэта клуб, біржа, соймік, і, бадай, няма такой справы, якую б вырашалі па-за карчмою; карчма — месца, дзе канцэнтруецца жыццё ўсяго наваколля», — так адзначае даследчык Палесся Ч. Пяткевіч [23, 638].

Такім чынам, унутраны свет карчмы неаднабаковы, а вельмі шматгранны, шырокі, напоўнены супярэчнасцямі, што народжаны грамадствам, і што выкрываюць і характарызуюць само грамадства. Гэта жывая крыніца інфармацыі, народнай мудрасці і грамадскіх заганаў. Карчма выконвала шырокія грамадскія, сацыяльныя, эканамічныя, інфарматыўныя, культуралагічныя, нават псіхалагічныя функцыі, таму горад не мог абыйсціся без карчмы.

У II палове XIX ст. на аснове корчмаў сфарміраваліся гасцініцы і паштовыя станцыі [21, 45].

У пачатку XX ст. дзейнасць корчмаў стала паступова згортвацца і пераўвасабляцца ў аблічча народных дамоў і клубаў, толькі ўжо без гарэлкі. Сёння ў сувязі з развіццём турызму, і ў прыватнасці агратурызму, існуе неабходнасць вяртання нацыянальных традыцый беларускіх піцейных устаноў, якімі былі корчмы. На жаль, гэтыя традыцыі цалкам страчаныя. А захоўванне гэтых традыцый зрабіла б нашу інфраструктуру вельмі прывабнай. Дзе-нідзе на Беларусі сёння можна сустрэць спробы стварыць карчму, але ўрэшце вынік такіх стваральных пошукаў нагадвае эклектыку сталоўкі, бара і рэстарана. І як тут не ўспомніць «Забытую карчму» Янкі Купалы?..

Літаратура:

1. Помнікі этнаграфіі: Методыка выяўлення, апісання і збірання (пад рэд. Бандарчыка). — Мн, 1981.

2. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы (4). — М., 1988.

3. Рогач Л. Карчма ў Беларусі на аснове пісьмовых і археалагічных крыніц //Вывучэнне роднага краю як сродак патрыятычнага выхавання моладзі (матэрыялы студэнцкай навукова-практычнай канферэнцыі). — Мн., 2005.

4. Историко-юридические материалы извлеченные изъ актовыхъ книгъ губерний Витебской и Могилевской, хранящиеся въ центральном архиве въ Вильне, и изданные подъ редакцией Д.С. Довгяло. Вып. 32, Витебскъ, 1906.

5. Историко-юридические материалы извлеченные изъ актовыхъ книгъ губерний Витебской и Могилевской, хранящиеся въ центральном архиве въ Витебске, и издаваемые подъ редакцией архивариуса сего архива Созонова, Вып. 12, Витебскъ, 1881.

6. Историко-юридические материалы, извлеченные изъ актовыхъ книгъ губерний Витебской и Могилевской, хранящиеся въ центральном архиве въ Витебске, и изданные подъ редакцией архивариуса сего архива Созонова, Вып. 7, Витебскъ, 1876.

7. Пушкарева Н.Л., Бессмертных Л.В. «А се грехи злые, смертные...» (Русская семейная, бытовая и сексуальная культура глазами историков, этнографов, литераторов, фольклористов, правоведов, богословов XIX — нач. XX в.). — М., 2004.

8. Историко-юридические материалы извлеченные изъ актовых книг губерний Витебской и Могилевской, хранящиеся въ центральном архиве въ Витебске и изданные подъ редакцией и. д. архивариуса сего архива М. Веревкина, В. 19, Витебскъ, 1889.

9. Мальдзіс А. Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII ст. — Мн., 1982.

10. Историко-юридические материалы, извлеченные изъ актовыхъ книгъ губерний Витебской и Могилевской и изданные подъ редакцией архивариуса сего архива Созонова, В. 5. Витебскъ, 1874.

11. Историко-юридические материалы, извлеченные изъ актовыхъ книгъ губерний Витебской и Могилевской, и изданные подъ редакцией архивариуса сего архива Дм. М. Довгяло, В. 31, Витебскъ, 1903.

12. Цярохін С. Біць лазовымі дубцамі//Беларуская мінуўшчына, № 1, 1995.

13. Историко-юридические материалы извлеченные изъ актовыхъ книгъ губерний Витебской и Могилевской, хранящиеся въ центральном архиве въ Витебске, и изданные подъ редакцией архивариуса сего архива Н. Мещерского и М. Веревкина. В. 17, Витебскъ, 1888.

14. Историко-юридические материалы извлеченные изъ актовыхъ книгъ губерний Витебской и Могилевской, и хранящиеся въ центральном архиве въ Витебске, В.15, Витебскъ, 1885.

15. Беларускі фальклор (хрэстаматыя). Выд. 2-е, дап. Склалі К.П. Кабашнікаў, А.С. Ліс, А.С. Фядосік. Мн., 1977.

16. Рогач Л. Забытая карчомка//Культура, № 53, 2006.

17. Бандарчык В.К. Сацыяльна-бытавыя казкі. — Мн., 1986.

18. Живописная Россия: Отечество наше в его зем., ист., экон., и быт. значении: Литов. и Белорусское Полесье: Репрезент. воспроизв. изд. 1882 г. — 2-е изд. — Мн., 1994.

19. Марзалюк І. Матрыманіяльнасць і секс у Беларусі — XI—XVIII стст. Terra Alba. Т.2. Homo Venerius: сексуальная прастора беларускай культуры. — Мн., 2001.

20. Баршчэўскі Я. Выбраныя творы (Беларускі кнігазбор). — Мн., 1998.

21. Якімовіч Ю. А. Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся 17—19 стст. — Мн., 1978.

22. М. Чарот, Карчма. — Мн., 1926.

23. Ч. Пяткевіч, Рэчыцкае Палессе (серыя «Беларускі кнігазбор»). — Мн., 2004.

**Скрипченко Т. С.,**
кандидат исторических наук,
старший научный сотрудник
МНИИСЭПП (Минск)

# Проект создания Центра духовного наследия в Заславле (территория городища «Вал»)

Цель доклада — познакомить руководство ГИКЗ «Заславль» с авторским проектом создания Центра духовного наследия.

В настоящее время на территории г. Заславля имеется ряд объектов, относящихся к категории исторического наследия. Они числятся на балансе Историко-культурного заповедника «Заславль». Считается, что если объекты находятся в едином подчинении, то легче прогнозировать и регулировать их финансирование, планировать рациональное использование, рассчитывать перспективы развития. Возможно, это так, если существует общее руководство при глобальном планировании на городском (областном или республиканском уровне). Такое планирование предусматривает между тем индивидуальную самостоятельность объектов. Заповедник располагал и располагает минимальными средствами на текущие расходы, не говоря уж о творческом планировании и внедрении новаций. Это, безусловно, не означает, что у заповедника не существует оригинальных проектов. Они есть. Но нет денег на их внедрение. Создание самостоятельного Центра упростит существование объекта заповедника — городища «Вал», требующего постоянного вложения денег с одной стороны, а с другой стороны создающего противоречия с собственником, расположенным на его территории в лице Спасо-Преображенской церкви Минской благочинной округи Минской епархии. Центр, не нарушая законодательства об охране памятников истории и культуры Республики Беларусь, сможет не только осуществлять поддержание существующего архитектурного и исторического объекта в надлежащем состоянии, но и получит возможность реконструкции ныне не существующих объектов, ранее располагавшихся на территории городища. Но это возможно только при самостоятельном планировании и финансировании объекта. Создание Центра, кроме того, снимет ряд вопросов этического характера во взаимоотношениях православной церкви и заповедника. Например, проведение рыцарских игр возле христианского храма, двухдневный рыцарский лагерь у подножия городища «Вал», проведение традиционных народных праздников (языческих по своей сути) в непосредственной близости с храмом и т.п. Между тем, Центр будет иметь возможность проведения различных мероприятий историко-христианской направленности. Логика их проведения обусловлена в первую очередь историей самого объекта — первая церковь (одна из самых древних в Беларуси); история католицизма,

протестантизма и православия на столь малой территории, как в зеркале отражающая эти явления в масштабах Беларуси; первые христианские ереси, атеизм и возрождение христианства в современном обществе. Музеи, которые предполагается создать в реконструированных большой и малой въездных башнях, в полной мере смогут осветить эти страницы истории. Культурно-просветительная работа центра на базе воссозданного дворца Глебовичей будет способствовать популяризации исторических знаний среди населения Беларуси, формированию городского (шире — национального) патриотизма. Кроме того, Центр сможет стать весьма привлекательным объектом для внутренних и внешних туристов, местом проведения исторических, археологических и др. научных форумов местного, республиканского и международного уровня.

Может возникнуть резонный вопрос: а как же те праздники, которые заповедник проводил на территории городища «Вал»? Эти праздники ни в коей мере не будут ущемлены. В городе имеется городище «Замэчак» — то место, где и возник первоначально летописный Заславль. Еще в 1996 г. администрация заповедника предлагала городским властям активно задействовать этот объект в канве городских праздников и мероприятий. При создании Центра это предложение уже станет вынужденной реальностью. Но последнее обстоятельство также имеет свои плюсы, так как позволит активнее задействовать в городских мероприятиях новые микрорайоны Заславля, расположенные ближе к «Замэчку».

Еще одним плюсом, наверное, первоочередным, является то, что православная церковь сможет сама искать инвестора (инвесторов) для создания такого Центра. Она сможет решить вопросы с проведением археологических (церковно-археологическких) раскопок с привлечением молодежи и организацией волонтерского (молодежного духовного) лагеря, архитектурно-археологичеким зондажем, ремонтными работами в Спасо-Преображенской церкви, строительством часовни-крестильни, созданием археологического павильона над фундаментом древнейшего храма (фундамент находится в настоящее время под землей в непосредственной близости от подошвы вала за действующей церковью). Археологические работы той части городища, где располагались дворец Глебовичей, въездные башни, должно взять на себя руководство Центром. Оно же должно провести тендеры, поиск инвесторов на строительство объектов по реконструкции (освобождая от этого бюджет Минской области). При такой постановке вопроса создание Центра (следствие — приток денег от активизации туризма) не затянется на долгие годы. Если заповедник по-прежнему будет «главным держателем» городища «Вал», то позитивных перемен в обозримом будущем вряд ли придется ожидать.

Рассмотрим предлагаемую структуру Центра. Ее основу составляет двойное соподчинение по вертикали и горизонтали. Руководство — вертикальное взаимодействие, работа с каждой структурой — горизонтальное взаимодействие. Получается управленческая пирамида, которая позволяет в условиях одного центра отдельным его частям быть относительно независимыми.

В орган управления Центра входят:

- Генеральный директор
- Офис-менеджер
- Заместители генерального директора
- Главный бухгалтер
- Пресс-секретарь
- Секретарь-референт
- Директора определенных зон деятельности

Генеральный директор Центра является руководителем исполнительной власти, обладающим опытом организации бизнеса, который ведет собрание административного и других советов Центра, созывает общие собрания советов, объявляет о снятии или назначении всех должностных лиц Центра, руководит директорами определенных зон деятельности Центра, ведет контроль за редакцией отчетов, контролирует правильность ведения всей административной службы, осуществляет контроль за финансовой деятельностью Центра.

Исполняющие обязанности заместителей генерального директора делятся на:

- заместителя по рекламе;
- заместителя по маркетингу;
- заместителя по финансовой деятельности (менеджер-экономист).

Если по каким-либо причинам генеральный директор не может исполнять своих обязанностей, его заменяет один из заместителей. Этот заместитель генерального директора пользуется такими же правами, что и генеральный директор, при исполнении своих обязанностей. Каждый заместитель генерального директора контролирует правильность работы определенного участка зоны, за которую отвечает перед генеральным директором.

Офис-менеджер подчиняется непосредственно генеральному директору и обеспечивает сохранность всей документации Центра (реестры, отчеты и т.д.), принимает участие в работе административного и консультативного советов, готовит отчеты о деятельности Центра, занимается составлением планов. Вместе с генеральным директором официально принимает приглашенных гостей, делегации, представляет Центр на официальных приемах.

Главный бухгалтер занимается финансовыми вопросами Центра (получает все суммы денег, размещает их в банки, проводит все платежи по обязанности Центра, но только по распоряжению административного совета); все чеки и кассовые ордера должны быть подписаны главным бухгалтером и представлены на рассмотрение административного совета либо лично генеральному директору Центра.

Главный бухгалтер напрямую сотрудничает с менеджером-экономистом, который ведет бюджет, занимается отслеживанием прибыли и контролем бизнес-планов, а также участвует в заключении договоров между внешними организациями и учреждениями разных форм собственности (желающими сотрудничать с Центром) и отдельными зонами Центра.

Пресс-секретарь подчиняется непосредственно генеральному директору Центра, ведет отслеживание корреспонденции, занимается подготовкой и участвует в пресс-конференциях. Если по каким-либо причинам генеральный директор не может проводить пресс-конференцию, ее проводит пресс-секретарь. Пресс-секретарь сотрудничает с секретарем-референтом и напрямую — с офис-менеджером.

Директора определенных зон деятельности подчиняются генеральному директору и административному совету. Они обеспечивают хорошо отлаженную хозяйственную деятельность зон, за которые несут ответственность. Один раз в месяц директора зон представляют консультативному совету отчеты о проделанной работе и финансовых операциях.

Структура организации работы Центра представляется следующим образом:

административный совет созывается регулярно один раз в неделю, по инициативе генерального директора, который назначает время и место его проведения. В нем принимают участие генеральный директор, офис-менеджер, заместители генерального директора, секретарь-референт. Административный совет является исполнительным советом и несет ответственность за принятые решения. Любая новая проблема и каждый новый шаг деятельности сначала формируются и утверждаются административным советом и только потом представляются в консультативный совет.

Консультативный совет созывается один раз в месяц по инициативе генерального директора или заместителя генерального директора, исполняющего в данный момент обязанности генерального директора, который назначает время и место проведения совета. В консультативный совет входят: генеральный директор, заместители генерального директора, офис-менеджер, главный бухгалтер, пресс-секретарь, секретарь-референт, директора определенных зон деятельности. Совет принимает утвержденные решения административного совета; имеет право поправок решений, принятых административным советом.

Административный совет раз в 3 месяца проводит проверку счетов, отчетов и финансовых операций Центра, а также может провести долговременную проверку и этим выяснить, как должностные лица и директора определенных зон деятельности распоряжаются доверенными им средствами. Каждый представитель административного совета имеет право в любой час ознакомиться с отчетами должностных лиц определенных хозяйственных зон.

Назначение лиц на определенную должность происходит на контрактной основе. Предполагаются контракты: долгосрочные — до 5 лет для администрации (с последующим переизбранием на должность или освобождением) и краткосрочные — до 1 года — для директоров определенных зон деятельности и обслуживающего персонала (с возможным переизбранием либо освобождением). Для лиц обслуживающего персонала предусмотрен (перед подписанием контракта) испытательный срок 3 месяца.

При преждевременном расторжении контракта по каким-либо причинам с любым должностным лицом это должностное лицо может быть отозвано со своей должности путем голосования членов административного совета (2/3 голосов в присутствии всех членов административного совета) либо по приказу генерального директора Центра.

Научно-информационный совет — орган, который осуществляет контакты между деятелями науки и культуры, а их общий руководитель информирует всех о принятых решениях. Такой совет занимается в принципе только получением информации, в разработке решений не принимает никакого участия. Он собирает необходимую информацию и следит за общественным мнением.

Структура управления Центра должна совершенствоваться по мере его роста и развития.

Когда в 1997 г. создавался проект Центра, для успешной его работы предлагалось создание свободной экономической зоны. Эта модель сегодня может быть заменена другой, но с непременными государственными преференциями. В зоне деятельности Центра должен быть предусмотрен аспект страхования и защиты собственности и предпринимательских интересов хозяйствующих субъектов различных форм. Это важнейший элемент хозяйственной деятельности, направленный на полное или частичное возмещение потерь от непредвиденных обстоятельств (стихийных бедствий, аварий, несчастных случаев, невыполнения обязательств обанкротившимися контрагентами и т.д.).

Центр, пользующийся услугами страховых организаций (т.е. страхователь), предполагает в обязательном порядке периодически вносить этим организациям (страховщикам) определенные суммы денег, которые должны соответствовать по размерам и степени риска потери (порчи) имущества, невыполнения контрагентами взятых на себя обязательств и т.д. Если степень риска возрастает, то в этом случае используется система перестрахования, т.е. передача страховщикам части принятого на себя риска другим организациям. Имея в виду то, что коммерческие страховые организации ставят своей целью получение прибыли от осуществления страховых операций, а размеры платы за их услуги устанавливаются ими же в договорах со страхователями, предпочтение должно отдаваться государственным страховым организациям, которые также ориентируются на получение нормативной прибыли (однако применяемые ими ставки устанавливаются государственными органами) либо общественным (взаимным) страховым фондам и организациям, которые не ставят своей целью получение прибыли от осуществления страховых функций, так как они действуют на принципах взаимопомощи и взаимовыручки их учредителей и участников. Все это значительно снижает затраты на страховые операции, производимые Центром.

Рассмотрим производственную стратегию Центра. Для проведения строительства Центра необходимо проведение тендеров среди строительных организаций. В первую очередь должны быть отобраны высокотехнологичные строительные организации, а затем из их числа

выбрана одна с наиболее выгодными для Центра финансовыми предложениями.

Перед началом строительных работ на городище «Вал», согласно Закону Республики Беларусь «Об охране историко-культурного наследия», и для определения четких зон застройки реконструируемого дворца Глебовичей, большой и малой въездных башен, фундамента ранней церкви, необходимо проведение археологических работ, которые, очевидно, будут крупномасштабными (археологическому изучению подлежат те участки городища, на которых раскопки ранее не проводились). Стоимость подобных работ, по предварительным расчетам, будет составлять не менее 500 000 у.е. Однако работы можно удешевить, используя опыт организации волонтерских лагерей.

Финансовая сторона проекта, связанная с начальными затратами (т.е. без решения задач по созданию экспозиций музеев) на строительство модулей Центра (дворец, большая и малая въездные башни, крестильная часовня, археологический павильон «Первая христианская святыня Заславля»), в денежном эквиваленте составит не менее 3 000 000 у.е. Проектно-сметная документация должна войти в задачи конкурсантов предполагаемого тендера, что в свою очередь уменьшит расходы заказчика, которым будет выступать Центр.

Исходной функциональной сферой деятельности проекта выбран рекреационный туризм, ориентирующийся на национальные объекты истории, зоны отдыха данной местности. Идею проекта Центра можно использовать как действенное средство для возрождения периферийных территорий (исторических провинций) республики, привлекая инвесторов к ценным историко-культурным и природным объектам.

Архитектурный проект, представленный в данной демонстрации, выполнен в 1997 г. архитектором В.Г. Потаповым (в то время главным архитектором г. Заславля). С этим проектом знаком Патриарший Экзарх Беларуси, Митрополит Минский и Слуцкий Филарет.

В 1995 г. на Международной конференции, посвященной истории и культуре Заславля, профессор А.И. Мальдис говорил о значимости исторической судьбы города с надеждой на торжество справедливости. Реализация данного проекта поможет ее осуществить.

**Орлова Т. А.**
«Градостроительная деятельность на территории охранной зоны Национального Полоцкого историко-культурного музея-заповедника. Проблемы сохранения исторического наследия»



Рис. 1. Софийский собор XI – XVIII вв.



Рис. 2. Спасо-Преображенская церковь XII в.



Рис. 3. Иезуитский коллегиум XVIII в.



Рис. 4. Архитектурный ансамбль бывшего Богоявленского монастыря. XVIII в.





Рис. 5. Казенные дома на центральной городской площади. XVIII в.



Рис. 6. Крестовоздвиженский собор конца XIX — начала XX вв.



Рис. 7. Лютеранская кирха конца XIX — начала XX вв. Псевдоготика



Рис. 8. Дом № 9
по пр. К. Маркса,
нач. XX в. Модерн



Рис. 9. Дом № 5
по ул. Скорины,
нач. XX в. Эклектизм



Рис. 10. Дом № 4
по ул. Сакко
и Ванцетти,
нач. XX в. Эклектизм



Рис. 11. Дом № 3 по ул. Сакко
и Ванцетти. Нач. XX в. Эклектизм



Рис. 12. Перспектива главной площади
г. Полоцка. Конец XIX – нач. XX вв.



Рис. 13. Главная площадь г. Полоцка. Современное состояние



Рис. 14. Дом генерал-губернатора.
Восстановлен в 1990-х годах



Рис. 15. Дом уездного и нижнего
земских судов.
Восстановлен в 1990-х годах



Рис. 16. Балюстрада
по пр. К. Маркса,
1970-е годы



Рис. 17. Балюстрада по пр. К. Маркса. Современное состояние

Рис.18. Дом № 21 по ул. Ленина





Рис. 19. Дом № 6 по ул. Свердлова



Рис. 20. Малые формы у подножия Верхнего замка



Рис. 21. Спуск к воде







Іл. .№ 1. Рэканструкцыя Заслаўскага палацавага комплексу.
Аўтары — Т. Гаранская, В. Маркавец
Іл. № 2. План гістарычнай часткі Заслаўя, выкананы паводле
«Карты Заслаўскага графства» 1812 года

**Казлоўскі В. І.**
«Музеефікацыя гарадзішча «Замэчак»: гісторыя пытання, актуальнасць, прапанова па архітэктурным вырашэнні»







Рэканструкцыя гарадзішча Біскупін. Польшча

**Клімаў М. В.**
«Новае ў даследаванні цэнтральнай часткі г. Глыбокае»



Барацінкі



Слой на плошчы



Дахоўка



Кафля



Пальчатка



Алена Кіш. Дзева на водах. 1930 – 1940



Сяргей Каваль. Мая вёска Якімава Слабада. 2005




Юрась Малаш. Ізяслаў. 2003



Юрась Малаш. Рагнеда развітваецца
з бацькам Рагвалодам. 1999.

# Змест



Вёрстка І.М. Кузьмянковай,
Рэдактар М.У. Сульдзіна

УП «РЫФТУР», Мінск, пр. Пераможцаў, 19а
Тэл. (+375-17) 203-27-14, 226-94-90
Ліцэнзія №02330/049435 ад 2.03.2009
выдадзена Міністэрствам інфармацыі РБ.
Тыраж 50 ас.